# RED LIST

K19 - савецкая падлодка, што патанула ля берагоў ЗША ў 60-х. K25 - "крызыс 25 год", psycho-generation брэнд, які актыўна раскручваюць у ЗША і Эўропе, каб апраўдаць нядбайства і непрыстасаванасьць да жыцьця сучасных дваццаціпяцігодак, а заадно напісаць пару "бэстсэлераў" і выгадна іх прадаць.

Хліпкая і вельмі нават прыцягнутая за вушы паралель з падлодкай дапаможа нам раскрыць мэханізм дзеяньня K25. Асацыятыўны шэраг, які выклікае слова "падлодка": замуравалі, гады - перакрылі кіслярод - жывым ня здамся. Прыблізна гэтак жа ўзьдзейнічае на псыхіку слова "крызыс". Так і было задумана.

Каб зразумець сутнасьць зьявы, адкінем усякія паранаідальныя "крызысы" і зірнем на рэчы проста. K25 - гэта калі за табой перастаюць хадзіць нянькі, вучылкі, прэподы ды іншыя куратары, і цяпер табе самому давядзецца падціраць соплі, сьлёзы і сьліні. З "чалавека, які ўспрымае", у 25 ты ператвараешся ў "чалавека, які аддае". Хочаш ня хочаш, давядзецца як мінімум сядаць на ўласную дупу. Як максымум - быць сонцам для іншых. Што ня так і проста. Таму рыхтуемся.

## K25: ІНСТРУКТАЖ ПЕРАД ПАГРУЖЭНЬНЕМ

Баляст - выкідаем усё лішняе. Асноўныя віды балясту: справы, якімі займаешся па інэрцыі ці па прынцыпе "ўсе так робяць" (шырокі спэктар - ад працы па разьмеркаваньні да "любові да магілы"); т.зв. сябры, за якіх трымаешся, бо "разам вырасьлі / вучыліся / бухалі / ...", хоць добра бачыш, што табе па жыцьці зусім у іншы бок.

Экіпаж - побач патрэбныя людзі, якія насамрэч табе цікавыя і зь якімі табе цікава.

Капітан - галоўны заўсёды той, хто самы круты. Зыходзім з аксыёмы, што самы круты ў нас ты.

Курс - "навошта ўсё" і што будзеш з гэтага мець канкрэтна ты.

Больш падрабязна гл. у "Правілах K25". І памятай: мы непатапляльныя, бо не падобныя да іншых. Як і ты.

? K25 хочаш ведаць, калі выйдзе новы нумар і дзе яго можна знайсьці - скінь свой мэйл на studumka@tut.by

крама **"TOM TAILOR"** (Менск, пр. Скарыны, 37, т. 288-12-44)
крама **"LEVI'S"** (Менск, пр. Скарыны, 48, т. 288-25-62)
крама **"БУНКЕР"** (Менск, вул. Казлова, 14, т. 284-93-99)
крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44, т. 284-30-14)
крамы **"МИСТЕРИЯ ЗВУКА"** (Менск, вул. Няміга, 12, т. 289-39-30; пр. Скарыны, 52а, т. 283-23-06)
ГЦ **"ПАРКИНГ"** (Менск, вул. Куйбышава, 40, крама **"FUJIfilm"**, т. 237-30-33)
аўтобусы **"INTERCARS"** і офіс **"INTERCARS"** (Менск, вул. Гікалы, 3, т. 284-60-37, 284-60-85)
крама **"ПЕРЕХОД"** (падземны пераход каля ГУМа, т. 227-41-14)
крама **"КОМПЬЮТЕРНЫЙ МИР"** (вул. К.Чорнага, 31, т. 284-00-35)
інтэрнэт-клюб **"iPOINT"** (вул. Румянцава, 15, т. 233-97-25)
інтэрнэт-цэнтар **"Плош@дка"** (пр. Скарыны, 58-4, т. 239-38-74)
**"ЦЕНТР МОЛОДЕЖНЫХ ПУТЕШЕСТВИЙ"** (вул. Варвашэні, 17-101, т. 239-17-49)
**STAR Travel** (вул. Сурганава, 47, оф. 8, т. 232-50-28)
**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ** (вул. Румянцава, 13, т. 284-85-11, 288-23-52)
**ГАНДЛЁВЫ ДОМ "НА НЯМІЗЕ"** (2 паверх, стэнд **RIMMEL**)
**ІНТЭРНЭТ-КАВЯРНЯ "САЮЗ-ONLINE"** (Цэнтральны дом афіцэраў, вул. Чырвонаармейская, 3, т. 226-02-79)
крама **"ПОДЗЕМКА"** (Менск, пр. Скарыны, 43, т. 288-20-36)


CD
СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

**CD /СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА/ #10 (94) 2003 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"

**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай Думкі"

**Галоўны рэдактар**
Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель /mikalaus@hotmail.com/
Сяргей Сахараў /2ss2@tut.by/

**Камэрцыйны дырэктар**
Аляксандар Казлоўскі /alex-iskander@mail.ru/
/па пытаньнях рэклямы - 8 (029) 626-69-36/

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Дызайн** VitaminV

**Фота** А. Лянкевіч, Н. Музалёва, Л. Глухава

**Адрас рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 228-62-06
**Адрасы для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
studumka@tut.by

**www.studumka.com**

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопіса не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя зьвесткі строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за розкага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.





Друкарня ТДА "НоваПрынт".
Ліцэнзія ЛП № 285, выдадзеная Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь 28.07.1998 г.
Фармат 60x84 1/8
Папера мелаваная 90 г/м2
Падпісана ў друк 19.11.2003 г.
Замова № 547
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны

## ЗЬМЕСТ


| | |
|---|---|
| 3 | контрас |
| 4 | адрэзак |
| 6 | THE FEICY |
| 8 | вірус К-25 |
| 11 | фігня вайна |
| 12 | дэма-вэрсія |
| 15 | правілы К-25 |
| 16 | flash mob |
| 19 | як ты |
| 23 | шукаю нармальную працу |
| 27 | партызаны |
| 32 | Xteam |
| 34 | art house |
| 37 | тэзаўрус |


/// КОНТРАС

# САЛАДУХА vs. БЭТМЭН
## ХТО ТУТ ГЕРОЙ?

Валік Мухін



**Саладуха вельмі падобны да Бэтмэна: абодва ненавідзяць жанчын, любяць чорны колер і напяльваюць на галаву задзірлівыя галаўныя ўборы. Эгацэнтрыкі, увосень 2003 яны абвесьцілі пра вяртаньне ў поп-культуру: шараговым кінаманам патлумачылі, што такое прыквэл і хто стане новым Бэтмэнам, а мэляманам наабяцалі, што Саладуха дасьць прагнай да скандалаў менскай публіцы праграму "Неравный брак".
Ці не зашмат супэрмэнаў? Ці не відавочны тут крызыс поп-культу? У новай рубрыцы "Контрас" Валік МУХІН спрабуе выступіць рэфэры ў разборках Аляксандра Саладухі і новага Бэтмэна за званьне "Мача ня плачуць".**

Вяртаньне - гэта заўсёды добра, асабліва калі вяртаюцца супэрчалавекі. БЭТМЭНаўскі "рэторн" - падзея, знакавая для ўсяго амэрыканскага кіно: пасьля негалоснага вэта-9.11 на блёкбастэры ў амэрыканцаў разьвіўся комплекс нястачы герояў. Ім стала вельмі страшна. А хто прыйдзе на дапамогу? Бязьлітасная жаба Халк? Сухастой Спайдэрмэн? Пэнсіянэры - выдатныя джэнтэльмэны на чале са старэчай Конэры ці скурвянелыя гістэрычкі Чарлі? Насамрэч прыгоды Бэтмэна былі ня самай ганебнай гісторыяй у амэрыканскім кіно.
У тым і справа, што былі.

Бэтмэну прыдумалі яшчэ колькі год, якія запішуць як стаж у яго працоўную кніжку: гэтым разам фільм пра чалавека-кажана будзе прысьвечаны таму, як пачыналася гераічная кар'ера простага хлопца. (Прыквэлы - а менавіта так называецца жанр "вяртаньня наперад"- апошнім часам набылі шалёную папулярнасьць.)

Здымкі новага фільму стартуюць напачатку новага году. Сцэнар пра раньнія гады кар'еры пішуць лузэры ад кінаандэрграўнду - Дэвід Гоер і Крыстафэр Нолан. Апошні - нядаўняя надзея альтэрнатыўнага "разумнага" кіно - не мінула і дзесяць год, як запрадаўся Галівуду. Зьняўшы культавую стужку "Памятай", ён трапіў у галівудзкія сьпісы "пэрспэктыўных", зь якіх яго выдзерлі браты Ўорнэры. У супрацы з гэтай кампаніяй Нолан паставіў "Бяссоньне" з Аль Пачына і Робінам Уільямсам - сярэдняй рукі баявік, які прайшоў - і ніхто нават вокам не міргнуў.

Зараз запраданец разявіў рот на "наша ўсё" - крылы, вушы тырчком і гняўлівыя вочы з-пад маскі. Будзьце ўпэўненыя, ціпа альтэрнатыўны кар'ерыст заваліць новага Бэтмэна. Пайшоўшы на павадку ў мэйджэр-кампаніі, хлапец зробіць з нашага Бэтмэна чарговую бязвольную ахвяру мэрчэндайзынгу. Далібог заваліць: адмовіўшыся ад прынцыпаў андэрграўнду дзеля грошай, ён гэтаксама адступіцца ад сьмеласьці, бескампраміснасьці і палітнекарэктнасьці real Batman.
Не падыме Крыстафэр такую глыбу -
нашага былога куміра...

Саша САЛАДУХА, супрацоўнік нейкага правінцыйнага рыбакомплексу, пачынаў зь лірычных песень, прысьвечаных Жанчыне. Нельга сказаць, што ён хлусіў: маладосьць, вера ў чыстае дармовае каханьне, ахвярнасьць дзеля шчасьця каханага чалавека. Гэта потым Саладуха сыйшоў у беспрабудны шансон. Што і зразумела: расчараваньне ў жыцьці, у менскіх клюбах і электараце, якому патрэбныя песьні лёгкія, даходлівыя, з клясычнай ля-мінорнай трохакордавай гармоніяй.

"Ты чужая жена, но моя ты любимая женщина!" - вымушана гучна зацягнуў Саша песьню мясцовага Эндру Л. Уэбэра (aka Алег Елісеенкаў), і ўсе зайшліся ў сьлязах замілаваньня. Ён сапраўдны супэрмэн, наш Саладуха. Тысячы беларускіх жанчынак на канцэртах, першая ў Беларусі прафэсійная МС, а пасьля і "залаты" CD, рывок у Маскву, дзе ў яго амаль што атрымалася... Залатыя часы нашага шоў-бізу асацыююцца зь ім!!!

Музычны журналіст Дзяніс Шаравар, якому давялося праехацца па гастрольным маршруце Саладухі, запэўнівае: "Саша - Прамэтэй, які прыносіць людзям агонь". Памылка: Саладуха - папярэднік сур'ёзнага шоў-бізу ў Беларусі. Там дзе Аляксандар Ціхановіч толькі б падакараў Ядзю Паплаўскую, Саладуха б'е табурэткай. Але б'е па тэме: лупцаваньне жонкі зэдлікам пінскай мэблевай фабрыкі - не банальныя сямейныя разборкі, а піяр перад канцэртам, які герой дасьць патрабавальнай і разбэшчанай менскай публіцы. Памэла і Кід Рок, Уіліс і Мур - Галівуд даўно наважыўся рабіць трэш-прамоцыю. Мы - толькі вучымся. У нашага існага куміра.

## (+) Я КАХАЮ ЦЯБЕ, АКСАНА!

Скандальны беларускі teen-праект "Краскі", лічы, афіцыйна абвесьціў пра тое, што гатовы да экспансіі на заходнія рынкі. Калі год таму прадусар "Красок" сп. Воранаў толькі намякаў на тое, што ў Польшчы і Нямеччыне зацікавіліся Аксанінай творчасьцю, то зараз мара робіцца явай.
У распаўсюджаным кампаніяй West-Records прэс-рэлізе сьцьвярджаецца, што за месяц з дня выхаду апошняга альбома "Красок" "Оранжевое солнце (Оранжевый альбом)" Расея "зьела" каля 300 000 дыскаў і касэтаў праекту. Гэта прытым, што перадапошні альбом "Старший брат (Желтый альбом)" за паўтара гады разыйшоўся накладам 400 000 асобнікаў. "Сумарныя ж дасягненьні "Красок" сёньня "цягнуць" на цэлых пяць плацінавых статусаў па стандартах Вялікабрытаніі," - нечакана падводзіць вынік безыменны прэс-аташэ. "Нечакана" - толькі для недасьведчаных: нагадаем, што менавіта Лёндан пасьля акупаванай Усходняй Эўропы стаў стартавай пляцоўкай для сусьветнага посьпеху "Тату". Па нашай інфармацыі, "Краскі" зараз актыўна працуюць над іншамоўным (пакуль незразумела, якім канкрэтна) матэрыялам. Уявіце сабе: "By.pop project "Paints". Ёсьць тут нешта гэткае!..



## (+) БІСЭКСУАЛЫ ВЯРНУЛІСЯ?!

Калі арыентавацца на спадарыняў Чыконэ-Рычы і Сьпірс, якія спачатку публічна цалаваліся, а пасьля выпусьцілі сада-маза відэа на We against the music, - хіба што так, вярнуліся. Час гетэрасэксуальных сэкс-бомбаў і мача з посьпехам мінае. Як сьведчаць экспэрымэнты адзначаных спадарыняў, многіх выдатных sexy запарыла адведзеная ім роля гетэра-сымбаляў. Зараз яны спрабуюць стаць сэкс-рэвалюцыянэрамі і гатовыя ісьці на эпатаж. Паколькі тэма "гома" заюзаная да крайнасьці, "бі" для іх - як кактэйль Молатава: просты ў прыгатаваньні і безадмоўны ў наступствах.
Што да сьмяротных бісэксуалаў, то яны пакуль у стане напружанага чаканьня. У наступным нумары CD чытайце, як менскія AC/DC рыхтуюцца да дзеяньняў.

### (5+) "КРАСКІ" - BY.POP

Тое, што яны зрабілі з намі, зараз чакае і Захад.

### (+4) ВІДЖЭІНГ

Мастацтва сумяшчаць прыгожае зь мілагучным заўсёды захапляла. Лямпы, сафіты, відэакамэры - і чароўная музыка. Віджэінг пасьпяхова зьнікаў з шэраў Беларусі аж да апошняга моманту. An angelico (менскія мастакі-дызайнэры Віталь і Антось) разам зь Ярыкам на чатыры дні пэратварылі адзін паверх "PTS'2003" у велізарны чыл-аўт. Бадай, самае нечаканае адкрыцьцё: усе героі, сюжэты, відарысы, якія праскоквалі перад дапытлівымі вачыма гледачоў - ня выдуманыя. Высьвятляецца, Менск і яго жыхары - гэта ўжо не безгустоўная СТВ-пастараль, а нешта незразумелае, прыгожае і прыцягальнае.



### (+3) МЕНСКІЯ КІНАМАНЫ

У менскія сінэматэкі не прабіцца. Калі раней ты рызыкаваў ня трапіць на паказы кінаклюбу ці "4х4", то зараз - нават на трэці тыдзень паказаў "Тэрмінатара". Калі гэта з часоў "Уладара пярсьцёнкаў" вы чулі "лішняга квіточка няма"? Менск вар'яцее па кіно. І калі ўлічыць, што ўзімку ў залях усё ж такі крыху цяплей, чым на вуліцы, а напярэдадзе пракат апошняй "Матрыцы", то рэцыдывы кінаманіі доўгатэрміновыя.

### (+2) AC/DC: ATTACK!

Бісэксуалаў запарылі вычварныя геі і дубагаловыя "нармалы", якія пакінулі за сабой права на выключна аднаполае ці гомакаханьне. Падобна на тое, што AC/DC пачынаюць маштабныя дзеяньні па падрыве сталых сэкс-нормаў.

### (+1) ТАРАНТЫНА

Пасьля пяцігадовых ваганьняў Тарантына нарэшце зразумеў, чым можа падзівіць публіку. Уваскрашэньнем. У "Kill Bill" геній Квэнтына рэінкарнаваў Бруса Лі, сьвятога кунг-фу-заступніка ўсіх пакрыўджаных узору 1970-80-х. Рэінкарнаваў, але не па-франкенштэйнаўску прымітыўна. На месца мужчыны з разьвітым вэстыбулярным апаратам і падазроным да ўсіх стаўленьнем стала жанчына, якой пасьля незьлічонай колькасьці коку (гл. Pulp Fiction) і 5-гадовай комы (тут жа) гэты самы апарат даваўся доўга аднаўляць. Але што ў выніку атрымалася: у "Kill Bill" Ума Турман - дзяўчына баявая: тырыць усіх направа і налева, самазабыўна 3 гадзіны махае шабляй, нібы шукаючы праўду жыцьця. Сапраўды: "калі ты ня біўся, што ты можаш ведаць пра сябе?"




### (-5) "ЧОРНЫ ПЛАШЧ"

Прасоўваньнем GSM-монстра абы-хто не займаецца.

### (-4) ЧЫСТЫЯ КАВЯРНІ

Гэта, безумоўна, менскае дасягненьне. Але якой цаной, дакладней, коштамі? Калі ў вельмі прыстойных і на першы погляд дэмакратычных месцах у цэнтры кубачак кавы каштуе блізу 1,5 эўра, то ну іх нафіг з такой чысьцінёй!

### (-3) ДЖАСТЫН ТЫМБЭРЛЭЙК - ЗАПРАДАНЕЦ

І мы яму, дзіцю шоў-бізу, гадаванцу мыльных N'Sync, маглі паверыць?! "Круты, твар нашай эпохі, папсавік, які заслугоўвае 100% даверу!" Лухта. Уявіце сабе толькі - працаваць на Макдон і на ўвесь сьвет казаць: "I'm lovin' it"!!! Цікава, ён хоць сам верыць у тое, што кажа?




### (-2) РАЗВАЛЬВАЮЦЦА І РАЗЬЯЖДЖАЮЦЦА

Дзіўныя настроі апанавалі менскіх музыкаў.

### (-1) САКРЭТНЫ КІТАЙСКІ БАЙКАНУР

Кітай, ня ў прыклад нам, нарэшце выбраўся ў космас. Як стала вядома з паведамленьняў інфармацыйных агенцыяў усяго сьвету, першы касьмічны карабель, які пілятаваўся мясцовым астранаўтам, пасьпяхова вярнуўся на Зямлю. Зараз увесь сьвет ведае, што ў Кітаі няма астранаўтаў: па-кітайску космас - туйкун, таму ў стратасфэру лятаюць толькі тайканаўты. Але чамусьці тыя ж агенцыі настойліва замоўчваюць, як перакладаецца назва кітайскага Байканура - Цзюцюанэ. Ці не таму, што маюць рацыю нашыя кітаямоўныя інфарматары, калі сьцьвярджаюць: з кітайскай Цзюцюанэ - "крыніца гарэлкі"?

## ХАПІЛА АДНАГО

АГЛаўскага "А мне они нравятся", каб вярнуць Velcom на зямлю, да простых людзей. Хаця гісторыя нічога добрага не абяцала. Спачатку зьніжэньне колькасьці падключэньняў, затым заявы аб нацыяналізацыі Velcom (лічы, пэратварэньне ў глябальнае паштовае аддзяленьне з адпаведнымі коштамі і сэрвісам), пасьля ўзьнікненьне беспэрспэктыўна чырвонай цёткі з дурнаватым выразам на твары "Снижение тарифов", і нарэшце - арышты.
АГЛ выправіў усе мэнэджэрскія і маркетынгавыя пралікі кампаніі адным махам. Бац - і ўсё наладзілася: канкурэнты сьціхлі, нацыяналізацыю спынілі, чырвоная цётка стала "woman in red", а кіраўніцтва выпусьцілі. Мараль: вось такі ён у нас - адзін супраць усіх. І на ўсіх. На жаль (ці на шчасьце?).

## РАЗЬЯЖДЖАЮЦЦА І РАЗВАЛЬВАЮЦЦА



Славы Бандарэнкі больш няма ў Менску. Саліст "Чехова", дыджэй "Альфа радио", кантрыбутар часопіса CD / "Студэнцкая Думка" і проста сябрук зваліў у Маскву. Зваліў неразумна, выпадкова і нечакана - ад такой страты мы яшчэ доўга не ачуняем. "Мне надакучылі гэтыя сум і рутына, якія цягнуцца ўжо шмат год, - сказаў перад ад'ездам Слава. - Магчыма, я ў нейкай ступені стаміўся тут жыць, бо я па натуры качэўнік".
Бандарэнку нішто матэрыяльнае тут не трымала - Слававы менскія сябры і фэны сталі ахвярай таго самага "анты-мідл-клясыцызму". Паводле яго словаў, мець наседжанае месца (напрыклад, уласную кватэру) - не патрэбная нікому раскоша. А няма ўласнага дому - што сядзець на адным месцы?..
Наўрад ці нам заменяць менскага Бандарэнку першы "чэхоўскі" "Mini-альбом", забыты некалі ў рэдакцыі бокс-сэт модаўскай музыкі і "Тэзаўрус" (гл. гэты нумар), напісаны напасьледак як тэстамэнт. Між іншым, для пэсымістаў: ходзяць чуткі, што нас можа пакінуць і N.R.M. - культавы рок-ансамбль, пясьняр першай хвалі (1996-99) беларускага X-Gen. Прычына банальная - музыкі задралі адзін аднаго...

# THE FEICY



## ФЭЙСЫ НУМАРУ

Наташа Музалёва

## JET SOUNDS COSMIC CORP.

**Культавае для менскай клюбнай эліты месца - клюб "Цветы", экс-"28" - атрымала ў лістападзе новае амплюа, новую назву і новых гаспадароў. Цяпер гэта Remix'82, і справамі запраўляюць таксама культавыя пэрсанажы - Саша Касач і Вадзім Кудрашоў aka promo-group JET SOUNDS COSMIC CORP. За лёс клюбу можна не турбавацца: Jet Sounds зарэкамэндавалі сябе людзьмі з амбіцыямі і густам. Чым і абумоўлена іх прысутнасьць у рубрыцы "Фэйсы нумару".**

**Наколькі ваш новы клюб адпавядае ўяўленьню пра "ідэальны клюб", які ў сваім інтэрвію ў "CD" (№1'2003) вы абяцалі пабудаваць?**
**С.К.** Ідэальны клюб пабудаваць немагчыма. Мы даўно плянавалі асесьці ў нейкім месцы. Дасталі пытаньні: "Чаму вы тусуецеся па розных месцах, а ня дзе-небудзь канкрэтна?" Цяпер нам удалося атрымаць гэтае памяшканьне, і тут мы будзем увасабляць свае ідэі ў жыцьцё. Тое, што вы бачыце ў клюбе цяпер - далёка не канец, мы будзем пастаянна яго паляпшаць. Літаральна кожны тыдзень.
**На якую аўдыторыю разьлічаны клюб?**
**С.К.** На тую, якая нас любіць, якая гатовая плаціць грошы за тое, каб патрапіць на вечарынку. Альбо не патрапіць, але нармальна да гэтага паставіцца.
**В.К.** На тую, якую мы сюды пусьцім.
**С.К.** А пусьцім тых, хто нам падабаецца.
**Які мэсэдж павінны несьці вашыя вечарынкі ў Remix?**
**В.К.** У нас ёсьць сьлёган клюбу: "Life is the Remix'82". Гэта адказ на ўсе пытаньні.
**Вашыя адносіны зь іншымі promo-groups?**
**В.К.** Нармальныя адносіны. Ужо цяпер я прапаноўваю іншым прамоўтарам пэўныя дні, калі яны змогуць праводзіць у нас свае вечарынкі.
**Канкурэнцыя не турбуе?**
**В.К.** Канкурэнтаў у нас няма. Мы лепшыя, мы - the best!
**Ці будзеце прывозіць у Менск іншых DJs, апроч Ярыка, Каня і Ко?**
**В.К.** Мы ўжо гэта робім. 14-га ў нас граюць Dj Ra, Dj Borchik, 22-га - Dj PartyPhone, а 21-га - Dj Топ і Dj Бэргамо. А яшчэ мы вырашылі зрабіць пятніцу жаночым днём: весяліць дзяўчат, бясплатна паіць алькаголем і г.д.
**Як вы ставіцеся да пераходу на free-ўваход у сваім клюбе?**
**В.К.** Станоўча, але пераходзіць ня будзем.
**С.К.** У нашых умовах гэта нерэальна. У нас ня так шмат багатых людзей, каб выстаўляць нармальныя сумы ў бары.
**А кошт квітка будзе заставацца такім жа?**
**В.К.** Не!!!
**С.К.** Не!!!
**В.К.** Кошт, думаю, будзе 14 000 па суботах і 7 000 па пятніцах. А ў астатнія дні - free.
Па будніх днях вечарамі тут будуць ісьці кінафільмы. Прыходзьце, праходзьце face control - і глядзіце.

## HALLOWEEN PARTY

2003, кастрычнік, 31; клюб BRONX
DJs: Teacher, Даша Пушкіна




BRONX вырашыў уразіць наведнікаў незвычайнымі дэкарацыямі: чатырохмесныя шыбеніцы, трупы, якія мірна адпачываюць на клетках з пацукамі... Другі паверх больш адпавядаў тэматыцы пятніцы 31-га і быў забіты дзявулямі ў касьцюмах котак ды зайчыкаў і маладымі людзьмі з расфарбаванымі тварамі. Усю ноч за пультам у ролі Dj падтанцоўваў Teacher пад свой даволі мілы house. Час ад часу да яго падбягала чароўная Даша Пушкіна, якая хвілін на 30 узяла ў свае рукі кіраваньне настроем людзей і пультам са сваімі кружэлкамі.
Прыліў захапленьня выклікала нешта сярэдняе паміж мерцьвяком і вампірам, што зьвісала на тросах над танцполам і выконвала складаныя акрабатычныя эцюды. Потым невядома адкуль зваліліся два трансвэстыты і пачалі разрываць трэцяга на запчасткі. Карацей, спэцыфічны душок Хэлоўіна прысутнічаў у Bronx на ўсе 100.

## HEROES AGAINST EVIL

2003, кастрычнік, 31; клюб Remix'82
DJs: Конь, Юма

Чаканьні чагосьці грандыёзнага і сэнсацыйнага ў Remix'82 (экс-"Цветы") былі толькі падагрэтыя гэтай вечарынкай. Jet Sounds амаль не хавалі, што на даводку памяшканьня да ладу элементарна не хапіла часу: ад ідэі павесіць над уваходам шыльду "Рамонт ня скончаны" адмовіліся ў апошнюю хвіліну. З навоўвядзеньняў - голыя чырвоныя сьцены, два танцполы і пульт, перанесены ў іншы канец галоўнага танцполу.
1 танцпол: у вялікай колькасьці дыму і людзей паміж дыскамі і "групай падтрымкі" рухаўся Юма, разьліваючы вакол сябе нязьменны пазытыўны american garage.
2 танцпол: Конь!!! Шмат гуку і жорсткая музыка: Nirvana ў арыгінале, Dj Tiga са сваім sinty pop, куча імправізацыяў у разнастайных стылях. І над усім гэтым у чырвоных промнях трэс іракезам ЁН - Бог Лёша Конанаў.
Усё прыгожа, усе задаволеныя.






# ВІРУС К25

## КРЫЗЫС 25-ГОДЗЬДЗЯ ЯК ЁСЬЦЬ

Таня Сола

«Барадаты» анекдот па тэме: жаба ў балоце скардзіцца сваёй зялёнай сяброўцы: «Так усё пагана, гідка, мярзотна - камары перавяліся, балота высыхае, буслы дасталі, што заўтра будзе - невядома, ды яшчэ бэгемот да дупы прыляпіўся...»

***

***

З Васем я жыла ў суседніх блёках студэнцкага інтэрната №2 адной ня менскай ВНУ. Ён быў з Воршы, і падчас нашага знаёмства вучыўся на 5 курсе тэхналягічнага факультэту. Худы, даўгалыгі і патлаты, поўзаў па пакоях, пужаючы маладзенькіх студэнтак-юрыстак яўна асацыяльнымі паводзінамі і цыканьнем жоўтым мэталічным зубам.

Народ расказваў байкі пра тое, што Вася пад бальконамі інтэрната пасеяў каноплі і чакае ўраджаю, што ён еў вараны рыс з машынным маслам ды іншую фігню. Адзінае, што дазваляла Васю застацца на паверхні і ня вылецець з унівэру - яго фэнамэнальныя мазгі, геніяльнасьць якіх прызнавалі ўсе выкладчыкі. Пасьля бліскучай абароны дыплёму на нейкую фантастычна незразумелую тэму (які ён пісаў каля тыдня, чаргуючы працу з папойкамі), Вася забіў на прапанову застацца працаваць на катэдры і паступаць у асьпірантуру і зьехаў у невядомым накірунку...

Праз два гады я даведалася ад сяброў, што аршанец Васіль паехаў у Менск, "з паветра" стварыў фірму супольна зь немцамі, займаецца нейкімі ўцяпляльнымі тэхналёгіямі і мае супэрбабкі.

Хутка я сустрэла яго ў краме. Ён пацягнуў мяне ў суседнюю забягалаўку, дзе мы дрынкалі каву і дзе ў разгар "настальжы" па мінулым Вася, глядзячы ў бок гопніцкай тусоўкі за суседнім столікам, раптоўна выдаў: "Як мяне ўсё задзяўбло. Тупая праца, якая не закранае мазгі, старыя сябры-дэбілы зь іхаднымі і тымі ж прыколамі і тэмамі, новыя сябры, што табунамі цягнуцца ў боўлінг і статкам набываюць пэйнтбольныя стрэльбы.

Блін, я ж мог быць у іншым месцы, мог бы, у рэшце рэшт, вынайсьці вечны рухавік..."

Карацей, напіліся мы з Васем. Праз год, едучы на працу і чытаючы паміж "Акадэміяй Навук" і "Кастрычніцкай" жыцьцесцьвярджальную эпапею Коўплэнда "Калі твая сяброўка ў коме", я патрапіла на ўрывак, які наклаўся на вечар з Васем як трафарэт: "Лайнус зрабіў глыток і сказаў:

- Наколькі я зразумеў па сваім досьведзе, у дваццаць год чалавек ужо дакладна ведае, што рок-зоркай яму ня стаць... Да дваццаці пяці можна здагадацца, што стаматолягам ці інтэлектуальным работнікам табе таксама ня стаць... А ў трыццаць да цябе пачынае падбірацца цемра, і ты ўжо задаешся пытаньнем, ці здолееш хаця б рэалізавацца, ня тое што дабіцца посьпеху ці дабрабыту..."

Васю было 25. І ў яго быў крызыс чвэрці веку - К25.

Яго каўбасіла гэтаксама, як, пэўна, аўтараў і герояў кніжачкі, якая зьявілася летам 2001 і адразу стала бэстсэлерам, -

"Крызыс чвэрці веку: унікальныя выпрабаваньні ў дваццаць год" (Quarterlife Crisis: The Unique Challenges of Life in Your Twenties). Дзьве 25-гадовыя дзяўчыны з Вашынгтону - журналістка Аляксандра Робінс і вэб-дызайнэр Эбі Вілнэр - сабраліся з думкамі, апыталі маладых пасьпяховых амэрыканскіх бюргераў і выдалі расповед аб праблемах, якія душаць 25-гадовых пры ўступленьні ў "сталае жыцьцё".

Аказалася, кім бы ты ні быў - кіраўніком буйнога холдынгу, які сямімільнымі крокамі прайшоў ад грузчыка да дырэктара, студэнтам-выдатнікам, які скончыў біялягічны факультэт і атрымаў нармальную працу, ці кіроўцам таксі; колькі б грошай ні зарабляў; быў ты ў палове краінаў сьвету ці сядзіш лузэрам у запыленым офісе - ты не застрахаваны ад К25.

Ты Вірусаваны, а гэта значыць: усё, што рабіў за сваё нядоўгае жыцьцё, - поўная лажа; ты ня ведаеш, куды засунуць сваю шыкоўную адукацыю ці камэрцый-ныя посьпехі, дакучлівых сяброў і гёрл/бойфрэнда; грузішся "Дзеля чаго я жыву (ем, п'ю, дыхаю)".

Гэтая ломка ня толькі амэрыканскага, але і нашага X-Gen, якое нарадзілася напрыканцы 1970-х - пачатку 1980-х. І яна - норма. Бацькам нас не зразумець - гэта адназначна: яны жылі ў іншы час. Іх калі і валтузіла, то ў вельмі лёгкай форме.

У іх усё было запраграмавана: інстытут - разьмерка-ваньне - шлюб - дзеці - стабільны заробак - адпачынак "на югах" - чарга на кватэру - яе фінал - ашчадная кніжка з гарантаванай парай тысячаў - набыты за іх "Масквіч". Чаго хвалявацца?

Савецкі "мідлклясык" быў сапраўды шчасьлівым чалавекам. У наш час тармазоў ня любяць і пры магчымасьці з садысцкім задавальненьнем ліквідуюць. Шанцы не апынуцца на месцы ахвяраў ёсьць у кожнага: за кароткі прамежак часу любы можа прайсьці шлях ад нікога да некага, дасягнуць мэтаў - і толькі пасьля думаць: "А нафіг мне гэта патрэбна?

Што далей? Якім я магу стаць і ці "ўпала" мне гэта?"

Нават калі табе ня чвэрць стагодзьдзя, зрабіць тэст на К25 не пашкодзіць. Адным - каб усьвядоміць, што адбываецца, іншым - каб зразумець, што будзе.



# ФІГНЯ ВАЙНА!

## АДНЫ КЛАДУЦЬ НА УСЁ, ДРУГІЯ ВЫБАРАЧНА

Лена Глухава

### К25 – АСНОЎНЫЯ СЫМПТОМЫ

**ЗДАРОЎЕЧКА**
Пачынаеш клапаціцца пра свой нездаровы лад жыцьця. Бярэшся рабіць ранішнюю зарадку, але жывоцік, які раптоўна абазначыўся і матэрыялізаваўся, не прападае. Зранку, пасьля чарговай папойкі, у галаве настойліва б'ецца думка: "Я хутка здохну". І калі ў адзін зь вечароў у клюбе ты замаўляеш безалькагольнае піва - гэта ўспрымаецца як выдзелены Госпадам шанец на жыцьцё.

**СЬЛЁЗКІ**
Становішся нечакана сэнтымэнтальным. Калі раней адзіным фільмам, які выбіваў зь цябе скупую сьлязу, быў "Белы Бім, чорнае вуха", то зараз... Ты стараешся схаваць сьлёзы замілаваньня, калі глядзіш на неразлучную парачку ў "Ляльках" Кітана і змахваеш салёныя кропелькі пад бясклапотнае рохканьне маралізатарскага "Бэйба". "Божа, які я дурны і сэнтымэнтальны", - думаеш ты, і ад гэтай думкі заліваешся яшчэ больш: "Божа, які я няшчасны!!!"

**АПАСЕНЬНЕЧКІ**
У самыя непадыходзячыя моманты пачынаеш задумвацца: усё навокал настолькі крохкае, што можа банальна кракнуцца. Ідзеш - і раптам цябе зьбівае машына, хоп - і ў цёмным месцы на цябе са сьпіны нападае абцяжараны ідэямі маньяк. У мэтро прыслухоўваешся да парадаў цёткі з рэпрадуктара і адыходзіш ад краю плятформы.
І ў кніжцы Кундэры цябе чамусьці не весяліць расповед пра шляхціца са сьвіты Напалеона, які на прыёме ў імпэратара захацеў сікаць, але сядзеў і цярпеў. І ад гэтага ў яго лопнуў мачавы пузыр. І ён памёр.

**БАБЛІШКА**
У галодныя студэнцкія гады ты грошай ня меў, а калі нешта трапляла ў тваю кішэню апрача стыпэндыі - расходавалася вельмі хутка і нешчадна. Ты марыў пра тое, як заробіш кучу бабак, як набудзеш на іх крутую тачку і паедзеш у Лёндан. Але тады нешта зарабляў - і спускаў на дробныя радасьці. Зараз заўважаеш, што становішся чалавекам, які Плянуе і Разьлічвае. І грошы для цябе вельмі важныя, прычым галоўнае - іх колькасьць.

**БЭЙБІ-СЭКСІК**
Сэкс для цябе важны ня столькі як прыемны працэс - для цябе на першы плян выходзіць фізіялягічная прраява псыхалягічнай блізасьці з партнэрам. І адсюль любімая фішка - дзеці ад сэксу. Партнэр падбіраецца ня з тых, з кім цікава экспэрымэнтаваць і адрывацца, а з тых, хто падаецца больш прыдатным на ролю бацькі (маці) тваёй бэйбіка.
Тэма працягу роду наагул пачынае перасьледаваць: ад надакучлівых нагадваньняў бацькоў да мімалётных назіраньняў за прагулкамі нейкай маладой мамкі з пупсам у калясцы. Думка "Ужо пара-пара-пара" перамяжоўваецца з думкамі пра шлюб.

**РОБЗА І ЛЮДЗІШКІ**
Напружваюць людзі і праца. Ты робіш выгляд, што ўсё окэ, пасьміхаешся і аптымістычна заліваешся салаўём у адказ на пытаньне "Як справы?". Але ў размовах зь сябрамі лексыка выдае цябе з галавой. Усё часьцей выказваньні завязваюцца на словах "задзяўбло", "херня", "гаўно", "so-so, bla-bla-bla". Панятак "праца" становіцца сынонімам "мне-ўжо-нічога-ня-хочацца!".
Сябры вырубаюць, бо аднолькава дурныя і абмежаваныя. Бацькі становяцца чужымі - такая "пятая вада на кісялі". Падаецца, што адзіны блізкі чалавек, які яшчэ больш-менш, - бой/гёрлфрэнд. Але як падумаеш, што зь ім трэба будзе зьвязаць усё жыцьцё, становіцца страшна.

**ДЗЯДЗЬКА/ЦЁТКА**
Пакуль цябе "жэншчынай" ці "мужчынам" не называюць, аднак ты пачынаеш заўважаць, што народ чакае ад цябе сталеньня, а не малалецтва. Спартовы стыль у адзеньні, які, як ты думаеш, цалкам адпавядае тваім 19 ("якія 25? Я сябе на іх не адчуваю!") ужо выклікае дзіўную рэакцыю ў навакольных. Як і твае сьлевы ўголас, сьмех без прычыны і фігурка Мікі-Маўса з "хэпі-міла", што стаіць каля твайго кампа ў офісе. А ты думаеш: "Трындзец. Яны хочуць, каб я быў такім, як яны..."

*Самае лепшае, што можна зрабіць у нашым выпадку - не грузіцца і не рабіць рэзкіх рухаў у стылі "кіну ўсё, зьеду ў Зымбабвэ". Проста перажыць гэты час і стадыю асабістага разьвіцця (зразумела, у тым выпадку, калі не знаходзішся ў стаячым балоце, выхад зь якога якраз у паездцы ў Зымбабвэ). Глядзіш - пасьпяхова пройдзем узровень і пяройдзем на наступны. Як у любой гульні, наступны будзе больш складаны, але і мы будзем ня тыя: станем моцнымі, узброенымі і падрыхтаванымі.*
*І застанемся сабой, але - у новай вэрсіі.*
*Не, ну праўда! Запытайся ў 30-гадовых.*

**Дарэчы, пра пафігістаў. Выявіць іх сярод знаёмых аказалася проста. Такія сабе ў прынцыпе нядрэнныя хлопчыкі і дзяўчынкі. Амаль цікавыя, часам разумныя, у пэўным ракурсе сымпатычныя. Ня болей. Адным рэальна пляваць на ўсё - лепей закінуць і заесьці, заліць і забыць. Іх дзень можа пачацца са званка сябру Васю з мэтай прабіць якую-небудзь шмаль, з касячка і іншых там грыбоў. Каб потым вагон глюкаў і тыдзень у адключцы. Чаму замест таго, каб прасоўваць сябе саміх, пафігісты, утаропіўшыся ў тэлевізар, паглынаюць тупую рэкляму пра пракладкі з крыльцамі і булённыя кубікі? Напэўна, ім так хочацца.**
**Ну і фіг зь імі!**
**Я лепей пра іншых. Іх таксама можна назваць пафігістамі. Славіка - таму што яму насамрэч шмат на што пляваць. Ён забіваў на вучобу, краў вінаград, езьдзіў "за проста так" на вайну. Адзінае - яму ніколі не было абсалютна ЎСЁ роўна. Віталіка - таму што яму пофіг рэчы, якія яму не падабаюцца. Нават калі гэта нешта важнае. Проста ён любіць атрымліваць ад працы кайф.**

### СЛАВА КАМІНСКІ

Да 6 клясы вучыцца на выдатна. Калі надакучвае, кідае школу і сыходзіць з дому. Бадзяецца па горадзе, сьпіць на вакзалах. У 11 клясе піша заяву на імя дырэктара: "школу больш наведваць ня буду". Сыходзіць на тры месяцы, але вучобу ўсё-ткі сканчвае. Паступае ў пэдуніверсытэт. Не наведвае лекцыі, не здае сэсіі - яго адлічваюць... толькі праз 1,5 гады. У 17 едзе на вайну ў Карабах, шарахаецца па развалінах, зьбірае старую мэблю, выпадкова сустракаецца зь міністрам замежных справаў РФ Козыравым - той раіць хлопцу вярнуцца дадому. Суправаджае галяндзкага журналіста Пітэра Волкава. Урэшце вяртаецца ў Менск. Ідзе на завод "Інтэграл". Чытае "Вайну і мір" і зьбірае тэлефоны. Што здарылася потым, ён і сам толкам не разумее.
"Мне захацелася ствараць. Прыносіць радасьць самому сабе". Слава здае іспыты ў Мастацкую акадэмію на спэцыяльнасьць "рэжысура". Тут жа адкрываюцца новыя магчымасьці: працуе апэратарам у праграме "Стоп-кадар", "Крымінальная кроніка", рэжысэрам на "8 канале". Паралельна падпрацоўвае ў некалькіх газэтах фатографам. Сканчвае акадэмію, кідае працу на ТБ і спрабуе паступіць ва ВГІК на рэжысуру. Бліскуча здае іспыты - яго залічваюць на адно з трох бясплатных месцаў. Вучыцца, працуе на ОРТ рэжысэрам адной з забаўляльных праграмаў. Здымае рэкляму. Стварае гурт "Малако і коржык", піша вершы, рэжысуе кліпы.
- Слава, ці можаш ты назваць сябе пафігістам? Хто гэта ўвогуле такія?
- Пафігісты? Ды іх не існуе. Ёсьць проста людзі, якім страшна прымаць рашэньні.





### ВІТАЛЬ ШУРАУКА

У школе забівае на вучобу, выводзіць настаўнікаў з раўнавагі, кідаючы пад столь падпаленыя запалкі. "Там, дзе нешта гарэла, абавязкова быў я".
Пасьля 9 клясы паступае ў радыётэхнічны коледж. "Я шмат ужо ведаў з таго, чаму мяне вучылі. Таму часта пляваў на ўсё. Адзін з прыкольных момантаў: калі трэба было пісаць дыплём, я згадаў пра гэта за 2 дні да абароны. Мне проста было не да гэтага. Ня ведаю як, але я пасьпеў. У выніку абараніўся на 5". Дзеля забавы дасылае артыкулы ў "Кампутарную газэту". Ім зацікавіліся. Некаторы час працуе для КГ пазаштатным карэспандэнтам. Потым яго заўважаюць у БДГ, запрашаюць на працу. Піша штотыднёвыя агляды кампутарнага рынку. У гэты час у Беларусі пачынае нараджацца рынак сотавых тэлефонаў.
"На той момант мяне ўжо дастала пісаць для некага, хацелася стварыць нешта самому".
Зьяўляецца ідэя зрабіць свой сайт, які б выдаваў найбольш апэратыўную і поўную інфармацыю пра мабільную сувязь: onliner.by.
У 2002 г. forum.by называе ягоны сайт праектам году, а самога Віталіка - чалавекам году.
- Што з табой адбылося?
- Ведаеш, я так і застаўся пафігістам. Мне пляваць на тое, што мне нецікава. Але калі я нешта раблю, то раблю гэта добра.
Onliner.by уваходзіць у тройку самых наведаных бясплатных сайтаў Беларусі, а паводле расейскіх рэйтынгаў - у дзясятку найлепшых сайтаў пра мабільную сувязь.
- Мне пофіг шмат якія рэчы. Я не гляджу тэлек: маё жыцьцё ніяк ня зьменіцца ад таго, што ў Буркіна Фасо ўзьняліся кошты на авёс. Але тое, што датычыцца працы, мне ня пофіг. Я атрымліваю задавальненьне ад таго, што раблю.

www.onliner.by

# ДЭМА-ВЭРСІЯ

## K25

**Слова *палітыка* выклікае ванітныя спазмы: усе гэтыя “ідэалёгіі”, “палітычныя рэжымы” і інш. як несумяшчальныя са здаровым страўнікам прадукты. Палітыкі для большасьці з нас - такія два пальцы, якія выклікаюць гэтыя ваніты. Тым ня менш у гаўне старых і сьмярдзючых палітыкаў сустракаюцца маладыя “ваўкі”, якія пры добрых абставінах змогуць парваць некага ці, прынамсі, учапіцца яму ў горла.**

## СУЧАСНЫЯ КАНСЭРВАТАРЫ

**(яны ж правыя)**

**Перакананьні**

**Людзі насамрэч слабыя, а традыцыі, звычаі і мараль - моцныя. Трэба абіраць той варыянт, які апрабаваны часам, і толькі калі будзе дакладна даказана, што новае - гэта лепшае, тады можна нешта мяняць.**
**Калі людзі слабыя, то кіраваць імі павінна эліта, якая, зразумела, абіраецца шляхам дэмакратычных выбараў.**
**Максымальная свабода рынкавай эканомікі, мінімальнае ўмяшаньне ў яе дзяржавы.**
**Сьпіс тых, хто можа разьлічваць на дзяржаўную дапамогу, невялікі. Беспрацоўныя, бяздомныя і маламаёмасныя туды звычайна не ўключаюцца.**
**Сацыяльная няроўнасьць - гэта нармальна і непазьбежна.**
**Грамадзтва павінна быць падпарадкаваным прававой дзяржаве, бо толькі яна можа гарантаваць свабоду асобы.**

**Каштоўнасьці**

**Мараль, адукацыя, рэлігія, сям'я, парадак.**

## ЛЕВЫЯ І ПРАВЫЯ - LIFESTYLE ЮНЫХ

Таня Сола

Пакінем убаку іх завароты наконт змаганьняў з таталітарызмам і паспрабуем змадэляваць, што сьвеціць нам, калі нехта зь іх прыйдзе да ўлады. То бок паспрабуем разгледзець, які адбітак накладаюць на іх (адпаведна, у пэрспэктыве і на наш) lifestyle перакананьні і сфэра дзейнасьці.

**АЛЯКСЕЙ ЯНУКЕВІЧ,**
**кансэрватар, сябра БНФ, кіраўнік камісіі партыйнага навучаньня, сябра Сойму**

**“Імкнуся трымаць сябе ў форме”**

Я спадзяюся, што ўсё-ткі гэта здаровы лад жыцьця. Не ўжываю алькаголю, не палю і імкнуся займацца спортам: хаджу ў басэйн, бегаю - ці раніцай, ці ўвечары, як атрымліваецца. У школе пяць гадоў займаўся вялікім тэнісам, пасьля - тры гады джыў-джыцу. Заняткі спортам умацоўваюць і цела, і волю.
Але той лад жыцьця, які ў мяне ёсьць зараз, праз колькі год трэба будзе мяняць, бо я дома праводжу вельмі мала часу. Фактычна толькі сплю, мыюся і раблю сабе сьняданак ды вячэру. Бывае, за кошт сну працую за сталом, пішу ці прапрацоўваю розныя дакумэнты. Але гэта няправільна: дома трэба бываць болей. Дом - кавалак душы чалавека.

**Пажыўныя месцы**

Я бываю ў рэстарацыях - палітыка робіцца ня толькі ў кабінэтах, але часта ў кулюарах. Пераважна з замежнымі палітыкамі, якія прыяжджаюць да нас у госьці. Вельмі добрая рэстарацыя - “Налібокі” на Кульмана. Таксама мне падабаецца “Галерэя” каля Палаца мастацтваў.
З клюбаў люблю “Рэактар”, “Акварыюм” (некалькі гадоў таму наведваўся туды амаль штотыдзень, калі там бывалі рокавыя і блюзавыя канцэрты). Мне пасуе інтэр'ер - утульна, стылёва, бязь лішкаў.
Увогуле, я ніколі не адчуваў патрэбы адпавядаць модзе, таму да “модных” месцаў (а таксама да іх сталых наведнікаў - ці гэта “Біс”, ці “Патыё Піца”, ці “Безэ”) стаўлюся скептычна. (У апошніх двух месцах, што праўда, узровень сэрвісу вельмі добры.)

**Месцы, якія ня кацяць**

Чамусьці мне не падабаецца “Тунэль” і WestWorldClub. Пэўна, кантынгентам наведнікаў. “Тунэль” - клюб, як па мне, арыентаваны больш на расейскую поп-музыку, а яна мне не падабаецца. На “шайбе” зьбіраецца моладзь, якая ў такім баўленьні вольнага часу бачыць сэнс свайго жыцьця, а я такіх памкненьняў не падзяляю. Не люблю “тусоўку” каля цэнтральнага McDonalds: усе гэтыя крыклівыя, нахабныя й безадказныя падлеткі - добры прыклад таго, як людзі марнуюць жыцьцёвы час і бацькоўскія грошы.

**Ад “Rainbow” да “Народнага альбома”**

Музыка для мяне мае вельмі вялікае значэньне. Я скончыў музычную школу па клясе баяна, граў у школьным аркестры



і ў раённым гурце (на бубнах), пасьля вучыўся граць на гітары (дарэчы, пэўны час са мной займаўся Піт Паўлаў). Магу слухаць музыку, ня робячы больш нічога. Што слухаю - залежыць ад настрою. Калі трэба прыйсьці ў тонус, слухаю блюзы і клясыку. Калі хачу набрацца энэргіі - слухаю “Rainbow”, “Metallica”, “Red Hot Chili Peppers”, “Rolling Stones”. Вельмі люблю беларускую музыку, для мяне яна пачалася з песьні “Крамы” “Будзь разам з намі”, і зараз “Крама” - мой любімы беларускі гурт. Акрамя таго, люблю NRM, Касю Камоцкую, “Народны альбом”, “Я нарадзіўся тут” ды шмат чаго іншага. Мне вельмі падабаецца, калі на вечарынах сьпяваюць беларускія народныя песьні. У такія моманты я думаю аб тым, што гэтыя ж песьні сьпявалі мой дзед, прадзед, бацька майго прадзеда... Адчуваньне такой пераемнасьці надае моцы, упэўненасьці й адказнасьці. Кожны з нас не належыць толькі самому сабе, і народныя песьні не даюць забыцца на гэта.

**Сям'я і дзеці**

Сям'я - гэта адзін з апорных камянёў грамадзтва, яго натуральная і найбольш важкая адзінка. Адносіны мужа, жонкі і дзяцей мусяць быць заснаваныя на павазе адзін да аднаго, павінны паважацца і захоўвацца нацыянальныя культурныя традыцыі й маральныя каштоўнасьці. Натуральна, сям'я павінна размаўляць па-беларуску і сьвяткаваць нацыянальныя сьвяты. Я перакананы, што мужчына мусіць зьбольшага забясьпечваць матэрыяльнае становішча і быць апорай для сям'і з пункту гледжаньня кантактаў з вонкавым сьветам, а жонка - больш клапаціцца пра добрую атмасфэру, ахоўваць сямейнае вогнішча, каханьне. Хаця нармальна, калі жонка працуе, пры ўмове, што яна гэтага жадае. Дзяцей павінна быць двое, трое, можа, чацьвёра.

**Чалавек у гальштуку**

Я амаль заўсёды хаджу ў строі, люблю кашулі, гальштукі спакойных колераў. Пачуваюся ў такім адзеньні вельмі камфортна. Ня надта люблю яркую вопратку.
Набываю адзеньне сам. Строі імкнуся шыць у атэлье, гальштукі набываю паўсюль, у тым ліку ў паездках. Кашулі - дзе давядзецца. Чалавек, асабліва мужчына, не павінен прыцягваць да сябе ўвагу вопраткай: шырокія штаны ці завушніцы дарэчныя для музыкаў як частка сцэнічнага вобразу, але калі студэнт якога юрфаку прыходзіць на заняткі, апрануты, як Eminem перад сваім шоў - гэта неразумна.

**Кансэрватар - гэта натура**

Безумоўна. Кансэрватызм - гэта ідэалёгія разумнага сэнсу, свабоды й адказнасьці, залатая сярэдзіна паміж таталітарызмам і анархіяй. Мой кансэрватызм у палітыцы хутчэй абумоўлены тым, што я зьяўляюся кансэрватарам паводле сваёй натуры, сваіх каштоўнасьцяў і перакананьняў. Гэта натура прывяла мяне да правых. Яна і абумоўлівае, у прынцыпе, мой лад жыцьця.

## СУЧАСНЫЯ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫ

**(яны ж левыя)**

**Перакананьні**

**Пры астатніх роўных умовах лепш выбраць новае, нават радыкальна новае, бо старое - гэта добра забытае, а новае можа прынесьці шмат магчымасьцяў. Традыцыі і звычаі - не галоўнае ў гэтым жыцьці.**
**Дзяржава павінна быць сацыяльна арыентаванай. Грошы зарабляе рынак, а “пірог” падатковых грошай дзеліцца з улікам інтарэсаў тых групаў насельніцтва, якія ня могуць пра сябе паклапаціцца. “Едакоў” можа быць вельмі шмат. Даеш высокія пэнсіі і субсыдыі на дзяцей, фінансавую падтрымку беспрацоўных і ўтульныя турмы!**
**Дзяржава павінна ўмешвацца ў эканоміку, укладаць дзяржаўныя грошы ў здароўе людзей і іх абароненасьць, павышэньне прафэсіяналізму. Людзі здольныя самаўпарадкаваць сваё жыцьцё, таму трэба стымуляваць прыватную ініцыятыву ў сацыяльнай, грамадзкай і палітычнай сфэрах.**
**І наагул: людзі самі ведаюць, што лепей, яны дастаткова моцныя, каб гэта вызначыць.**

**Каштоўнасьці**

**Свабода, роўнасьць, справядлівасьць, салідарнасьць.**

**ТАЦЯНА АЛЕСІНА,**
**сацыял-дэмакратка, кіраўнік ГА “Маладая Грамада”**

**“Я павінна быць унівэрсальным чалавекам...”**

Такі стыль жыцьця адпавядае актуальнай канцэпцыі лідэрства.
Заўсёдныя кантакты зь людзьмі, адукацыя - я пастаянна вучуся, у тым ліку нефармальна. Дакладней, мы вучымся адзін у аднаго, бо ў “левых” зносіны - гэта вельмі важна.
Павінен быць эфэктыўны расход рэсурсаў. Я ня згодная з тым, што трэба “забіваць” сябе, напрыклад, працай - трэба заўсёды крыху эканоміць, крыху пакідаць, і гэта дазваляе зрабіць нашмат больш.



**"Лепш піць"**

Я зьмяніла канцэпцыю харчаваньня. Калі чалавечая клетка на 80% складаецца з вады - навошта есьці? Лепш піць. Таму мой дзень пачынаецца зь якой-небудзь вадкасьці: кавы, колы. Вельмі люблю кухню Міжмор'я, напрыклад, піцу - гэта вельмі здаровая ежа, малакалярыйная і насычальная. Люблю мяса. Гародніна, садавіна - таксама супэр. Пачала любіць цукар, бо ён таксама дае падпітку. У тым, што мы вельмі любім міжкультурныя рэчы, ёсьць пэўная ідэалягічная падаплёка і здаровы рэзон: эўрапейцам зараз рэкамэндуюць пераймаць лад жыцьця і харчаваньня паўднёвых народаў - у Эўропе цяплее.

Люблю віскі, прычым каб яно пастаяла з год пасьля набыцьця. Нядаўна даведалася, што ў піва і віскі амаль аднолькавы рэцэпт, толькі іншая тэхналёгія. Паспрабавала кактэйль піва зь віскі, вельмі спадабаўся - і без наступстваў. П'ю чырвонае віно, якое мінімізуе шкоду ад паленьня тытуню. Мне падабаецца рэстарацыя "Куток Парыжу" - вельмі эўрапейскае месца, прыгожая мэбля, ліхтарыкі на вуліцы. У гэтым месцы адбылася мая першая публічная сустрэча з маім сябрам.

Нядаўна была ў "Макс-шоў", увесь вечар з маім старым сябрам пратанчылі пад музыку пра каханьне, якую ўлетку я слухала ў машыне.

**"Адсутнасьць нэгатыўных эмоцыяў"**

Я вельмі люблю гэтую краіну, я не нацыяналіст ні кропелькі - проста як сацыёляг і юрыст разумею, што адбываецца ў грамадзтве. Таму ў любым месцы, куды б я ні прыйшла, калі бачу, што людзі робяць нейкія памылкі - для мяне гэта ня мае ніякага значэньня. Наадварот, буду старацца неяк падтрымаць.

І ўвогуле, натуральны стан сьвету - гэта хаос, і тое, што чалавек хоча ўсё ўпарадкаваць - кепска, у першую чаргу для яго самога. Я абсалютна супраць усялякага парадку, пры гэтым я не анархіст і лічу, што нейкія прынцыпы арганізацыі супольнасьці павінны быць. Але я дакладна супраць клясычнай герархічнай арганізацыі. Нават у кватэры ніколі ня трэба наводзіць ніякіх парадкаў, і для рэчаў трэба знайсьці месца, дзе ім зручна ляжаць.

**"Адзеньне мусіць быць простым і недарагім"**

Вельмі люблю натуральныя рэчы. Калі штучныя матэрыялы - толькі вельмі добрай якасьці. Не заўсёды важна, што апранута. Няма людзей другога гатунку - "служка - пан". Гэта выключана. Таму адзеньне павінна быць яшчэ і простым, недарагім, каб яго не было шкада. Ведаеце "рэчызм", які сфармуляваў Маркс? Гэтага не павінна быць. Для мяне вельмі важны абутак, бо ногі - важная штука. Вельмі люблю Ecco, спартовы -Adidas.

Шмат адзеньня набываю ў Менску, але ў мяне ёсьць праблема некаторай нестандартнасьці фігуры. Аднойчы хацела зладзіць у "Мілавіцы" пікет: яны чамусьці лічаць, што прыгожую бялізну трэба рабіць да пэўнага памеру, а пасьля - непрыгожую. Проста расізм. У Эўропе няма ўжо вельмі худых жанчын, і ўсё адзеньне шыецца з улікам таго, што яно павінна быць камфортным. Мне вельмі падабаецца скандынаўскае адзеньне: швэдзкае і нарвэскае... Падабаюцца рамяні "Mattioli" - прыгожыя і недарагія. Аксэсуары ў мяне таксама міжкультурныя, з розных частак сьвету: яны надаюць моцы і дазваляюць адчуць сябе, напрыклад, афрыканкай ці пэруанкай.

**"Запытвала мужчынскую музыку..."**

Фактычна, люблю ўсю музыку. Але апошнім часам я прыходзіла ў крамы і запытвала мужчынскую музыку - мяне вельмі цікавіла прырода мужчын. Аднаго разу паказалі дыск "Бригада". Я спачатку адмаўлялася, але пасьля купіла. І не пашкадавала: там ёсьць некалькі такіх рэчаў глыбокіх, напрыклад, "Ты неси меня, река…". Я слухала яе, калі мой сябар зьехаў.

Вельмі люблю музыку мужчын-фэміністаў: гэта ня тыя, што згубілі сваю мужчынскую самаідэнтыфікацыю, а тыя, хто здолеў зразумець жанчыну крыху больш за тое, як прынята. У гэтым сэнсе для мяне адкрыцьцём стаў альбом A-ha "Lifelines". Таксама Мадона - яе "American Life" вельмі эўрапейскі. У беларускай музыцы ёсьць здаровая чароўнасьць. Некаторыя рэчы ня толькі дапамагаюць пазнаць сябе - гэта занадта банальна, - яны проста вельмі добрыя. Мне падабаецца гурт, які сьпявае пра аэрадромы, пра сайты (J-Морс? - Рэд.). Я адкрыла для сябе "Песьняроў" - клясыка, аўтэнтызм; падабаецца трыб'ют "Depeche Mode". Я ніколі не кажу пра поп-музыку, бо лічу, што элітарнае мастацтва засталося ў мінулым. Адно што цікава, ці гэта масавае мастацтва перагнала масы, ці масы так падрасьлі.



K25

# ПРАВІЛЫ К25

## У ТВАЙГО СЫНА БУДЗЕ "НАВАРОЧАНЫ" ТАТА

Андрэй Гнёт

**Учорашнія 18-гадовыя сёньня кулляюць супэрнаварочаныя мабілы, заўтра - апошніх мадэляў бімэры, а праз два дні возьмуць да сябе на працу ўласных бацькоў. Тыя, каго не забіла піянэрскае дзяцінства і бязладныя 90-я, набылі асноўныя якасьці звышзаваеўнікаў: трывалы імунітэт да вялікіх праблемаў, імгненную адаптацыю да складаных сытуацыяў, хуткае саманавучаньне і сьвежыя мазгі. Цікава, што далей?**

Пры спрыяльным раскладзе прыкладна ў 25 ты пачынаеш адчуваць сябе як альпініст, які занадта рана скарыў самую высокую вяршыню. Новых гор ужо не засталося, а жыцьця - ня менш за палову. Тыя, каго ў будучыні паб'е вірус K25, заўважныя. Гэта і манэра трымацца на людзях, і асаблівы стыль зносінаў, і адзеньне, і тым больш узрост, які не адпавядае біялягічнаму. У сваёй большасьці гэта тыповыя лідэры і ўжо, прынамсі, не маўчуны. Падобныя якасьці праяўляюцца не пазьней 18 - гэта час, калі трэба нешта вырашаць. Зрэшты, калі ня спаць тупа на лекцыях, то K25 табе забясьпечаны, бо, пачаўшы сёньня, у 25 можна мець усё.

Мы ж разумеем, што "ня богі гаршчкі абпальвалі", а ў прэзыдэнта нафтавай кампаніі дзьве рукі, дзьве нагі і ён таксама ходзіць у прыбіральню. Тата ў яго, кажаце? Не пытаньне, у майго сына таксама будзе "тата"... Імкненьне зрабіць максымум магчымага ў мінімальныя тэрміны - мысьленьне ўпэўненага заваёўніка, а чакаць з мора надвор'я - доля ўбогіх.

K25, па сутнасьці, сыгнал, што гучыць, як толькі дасягаеш новага ўзроўню ў жыцьці. Так заведзена, што ніводная рэвалюцыя не абыходзіцца без патрасеньняў. Гэта па змаўчаньні. Але ніхто ня стане адмаўляць, што рэвалюцыя - гэта калясальны скачок у разьвіцьці. Спадзяюся, вы ня супраць прагрэсу???

**ШТО РАБІЦЬ ДЛЯ ЖАДАНАГА K25?**

1. Пастаў перад сабой задачу / мэту па прынцыпе "адну бачу, другая марыцца".
2. Знайдзі аргумэнтаваную матывацыю для дасягненьня задачы / мэты. Напрыклад, Diesel: "We have to work hard > to do shopping". Матывацыя ёсьць рухальнай сілай.
3. Завядзі штодзённік і рэгулярна ўнось у мабілу лаянкавыя нагадваньні ("э, казёл, нах, пазвані Н.!").
4. Цані час. Сэкунды купіць нельга.
5. Хавай рэальны ўзрост, абыходзячы сьлізкую тэму, як гэта робяць дамы. На этапе станаўленьня ўзрост - слабое месца.
6. Прагульвай некарысныя пары. Сьпі не на лекцыях, а дома.
7. Не гвалтуй свой арганізм голадам, недасыпам, алькаголем і іншымі напругамі. Памятай, што ты залежыш ад яго.
8. Расстаў прыярытэты для задачаў, якія выконваеш. Прынцып - як у Microsoft Windows.
9. Ахвяруй дзеля прыярытэтных задачаў. Нэрвовыя клеткі аднаўляюцца на 80%, а косткі зрастаюцца за месяц.
10. Кажы праўду; маўчы, калі трэба схлусіць.
11. Набірайся досьведу, ня бойся дробных памылак, выключаючы фатальныя.
12. Захоўвай чысьцiню рэпутацыі. Карыстайся прынцыпам вялікай палітыкі: "Абасраўся раз - сьмярджу і зараз".
13. Паважай тых, хто перадае табе неабходныя веды і досьвед.
14. Захоўвай уласную свабоду. Прывязанасьць да малазнаёмых людзей - кайданкі.
15. Пераступай праз старпёраў, не парушаючы п. 13. Памятай: ты едзеш у скрайнім левым шэрагу.
16. Не бярыся за навучаньне навічкоў у працэсе ўласнага станаўленьня. Канкурэнты паступяць з табой адпаведна папярэдняму пункту.
17. Пазбаўся старых і непатрэбных рэчаў.
18. Мяняй месца працы не радзей 1 разу на год аж да дасягненьня высокай пасады. Пры адсутнасьці рэальных пэрспэктываў апошнюю адразу пакідай.
19. Прымай выгадныя прапановы, замяняючы імі існуючыя менш выгадныя.
20. Кажы НЕ без апраўданьняў.
21. Прызнавай і запамінай свае памылкі, адхіляй іх прычыны, каб не паўтараць у будучыні.
22. Абмяжуй кола знаёмстваў, выключыўшы выпадковых / непатрэбных людзей.
23. Не прэтэндуй на званьне зямнога пупа, папярэджваючы падобныя спробы астатніх.
24. Рабі ўсё напэўна.
25. Змагайся з дэпрэсіямі без ужываньня мэдпрэпаратаў аж да чаканага K25.




## МАСАВЫ ПСЫХОЗ

Арцём Рамановіч

***Звычайны будзённы дзень, шэра і халодна. 14:45.***

*Кастрычніцкая плошча, нулявы кілямэтар.*
**Сябар:** Мне казалі, народу будзе болей. Мы, відаць, адны. Стой, напэўна, вунь тыя таксама чакаюць.
**Я:** Фігня. Нават калі сабраць усіх з плошчы - малавата.
**Мой мозаг:** 14:55. Хачу жраць.
**Я:** Відаць, час. Там ужо стаяць каля дзесяці чалавек, некаторыя трымаюць мабілы.
*Як толькі мы падыйшлі да нулявога, адразу каля шасьці чалавек разыйшліся ў розныя бакі.*
**Мой мозаг:** Не, гэта яўна ня нашыя агенты.
**Сябар:** Млін, нас толькі трое.
**Я:** У цябе ёсьць на мабіле гімн СССР? У мяне няма - паспрабую стандартную "нокію".
**Сябар:** Па-дурному атрымліваецца, але паехалі...
*Трохі пастаяўшы і праслухашы 2,5 разы гімн СССР на мабіле, хуценька ідзем у краму за ежай.*
**Сябар:** Цяпер ты ведаеш, якім не павінен быць Флэш Моб.
**Я:** Адкуль ты ўвогуле ўзяў, што тут нешта будзе?
**Сябар:** Патэлефанаваў аднагрупнік, маўляў, будзе нейкі Флэш, прыходзь з мабілай у 15:00 на нулявы і ўрубі гімн СССР. Толькі, як бачыш, нікто акрамя нас і яшчэ аднаго прыдурка не прыйшоў. А па тэхналёгіі павінна быць чалавек 50 і болей, якія адначасова мусяць рабіць адну і тую ж фігню.
**Мой мозаг:** Фак, а калі сабраць чалавек так... м-м-м... 500. Ну, няхай 250, якія б, напрыклад, у "Цэнтральным" скупалі па чарзе туалетную паперу, а потым тут жа выкідалі яе ў сьметнік. І на фоне гэтай гары рулёнаў - прыфігелыя сэк'юрыці і касіркі... Чысты кайф.

### TOP 8 ЛЕПШАГА ФЛЭШ МОБУ

- Нью-Ёрк. 150 чалавек адначасова пытаюцца ў краме адзін і той жа дыван за $10.000.
- Рым. Каля 300 чалавек заходзяць у кнігарню і просяць кнігу, якой не існуе ў прыродзе.
- Нью-Ёрк. У холе аднаго з гатэляў Манхэтэна стаяць 250 чалавек і бессэнсоўна апладзіруюць.
- Бэрлін. Прыблізна столькі ж чалавек адкаркоўваюць пляшкі з шампанскім каля амбасады ЗША.
- Адэса. У супэрмаркеце мобэры бяруць па абаранку, становяцца ў чаргу ў адну касу і, не адыходзячы ад яе, надкусваюць яго і кажуць "YES".
- Піцер-Масква. Адначасова праходзяць акцыі на вакзалах. "Нашы людзі" з шыльдамі і аплядысмэнтамі сустракаюць нейкую Тацяну Лаўрухіну і Ўладзімера Ўладзімеравіча. Супрацоўнікі вакзалаў абураныя.
- Адэса. Роўна ў 17:05 натоўп у чорным ускладае кветкі да ног Рональда (McDonalds). Абывателі давяцца сваімі факбургерамі.
- Дэнвэр. 400 (!!!) чалавек разьбягаюцца па будынку. Зь верхняга паверху крычаць "Пінг", зь ніжняга "Понг". Усё робіцца арганізавана і ў такт.

### ГЭТА БЕССЭНСОЎНА

Флэш Моб - шалёны натоўп, добра арганізаванае вар'яцтва, грандыёзны жарт на мяжы фолу. Імгненна на вуліцы, плошчы, у шопе etc. зьбіраецца процьма народу і на працягу 2-4 хвілін адначасова робіць нешта неразумнае і шалёнае. Пасьля чаго гэтак жа імгненна зьнікае. Нечакана і бессэнсоўна. Але толькі з пазыцыі назіральніка.

Гэтая новая забава прыйшла зь Нью-Ёрку, калі 150 чалавек зайшлі ў адну краму і папрасілі адзін і той жа дыван за $10.000. Ці яшчэ прыклад: паспрабуй уявіць сабе, як каля 50 ф-мобэраў раптам пачынаюць паядаць бананы на выставе пральных машын у Дортмундзе.

Навошта? Амаль любы мобэр адкажа: гэта проста сьцёб. Гэта элемэнтарна - усіх дастала шэрая бытавуха, усім хочацца чагосьці яркага і неадэкватнага. Таму моб-эпідэмія распаўсюдзілася па сьвеце з хуткасьцю маланкі (гл. top 8).

### ГЭТА ЗАРАЗНА

За два месяцы яна дайшла да Беларусі. Прычым першая акцыя атрымала такі рэзананс, што паставіла на вушы нават наша флегматычнае TV. 24 жніўня ў 15:00 у Менску, на плошчы супраць цэнтральнага ўваходу на Камароўку, каля ста чалавек на працягу 15 сэкундаў апладзіравалі чыгуначнаму манумэнту ў выглядзе бабкі зь семкамі, пасьля чаго да яе ног былі ўскладзеныя цукеркі "чупа-чупс". Празь 2-3 хвіліны мобэры зьніклі ў натоўпе. Далей моб-акцыі прайшлі і ў Гародні: прыкладна 25 чалавек ля крамы "Нёман" стаялі 1 хвіліну, скрыжаваўшы пэндзлі, а праз 2 тыдні на чыгуначным вакзале прайшла акцыя "Божая кароўка": калі ў 17:00 па званку будзільніка ўсе пачалі піць кефір.

### ГЭТА РЭАЛЬНА

Замуціць свой моб ня так і цяжка. Але, па-першае, табе трэба прытрымлівацца некаторых законаў жанру, безь якіх гэта будзе ўжо ня Флэш Моб.

1. Акцыя не павінна мець палітычнага, рэлігійнага альбо камэрцыйнага характару, не павінна несьці ніякай шкоды.
2. Флэш Моб - "сакрэтнае дзеяньне", таму ня трэба расклейваць рэклямныя плякаты па горадзе.
3. Удзельнікі не павінны на працягу акцыі размаўляць адзін з адным - толькі імгненна зьявіцца, зрабіць сваю справу і тут жа зьнікнуць.

Па-другое, трэба прыдумаць і прадумаць сцэнар сусьветнага прыколу. Спачатку выбраць месца: плошча, крама, вакзал etc. Галоўнае, каб да яго было проста дабрацца. Час: звычайна гэта робіцца па выходных, у абед ці бліжэй да вечару. Калі ты выберыш нязручны час, то будзеш адзіным удзельнікам сваёй жа акцыі. Ну а калі ты яшчэ хочаш, каб пра тваю мэга-ідэю пачулі, то трэба несьці яе ў народ. Звычайныя шляхі - гэта інтэрнэт-форумы (гл. linx), e-mail, аська, мірка, SMS і іншы інфармацыйны гемарой. Таксама варта далучыць сяброў / аднагрупнікаў / знаёмых, якія ў сваю чаргу далучаць сваіх, а тыя... І яшчэ, пасьпяховым лічыцца моб, які прайшоў употайкі, не пасьпеўшы прыцягнуць увагу СМІ. Няхай потым кусаюць локці. Калі ты проста ўдзельнік "мерапрыемства", то ніколі не спазьняйся, а калі ўжо так атрымалася - не замінай астатнім. Трэба ўсё рабіць на поўным сур'ёзе, дакладна па схеме, і потым мірна зьнікнуць, а ня шчоўкаць хлябалам, што будзе далей.








## ПЕРШЫЯ НЬЮ-ЁРСКІЯ МОБЭРЫ
## (с) па вэрсіі часопіса "Live & City"

**Першае пытаньне: хто вы такія і якое дачыненьне маеце да Флэш Мобу ў краме?**
My name is Марк, а гэта Джэйм. Тут яшчэ няма адной нашай сяброўкі. Гэты Флэш Моб пачалі арганізоўваць мы, але толькі пачалі, далей гэта нагадвала лавіну. Спачатку мы хацелі зрабіць гэта паміж сябрамі, але тыя пачалі далучаць сваіх, а потым ужо проста кідалі людзям SMS'ы. Мы і не плянавалі рабіць гэта такім масавым, проста хацелі прыкалоцца.
**Адкуль узялася ідэя?**
З унівэрсытэту. Аднойчы мы паспрабавалі разыграць свайго прэпода. Адзін галімы выкладчык чытаў галімыя лекцыі па матэматычных выліках, і вось... Усе групы аднойчы дамовіліся, каб кожны, хто сустракае яго ў калідоры ці на вуліцы, казаў адну і тую ж фразу: "Добры дзень, містэр Генры" (на самой справе яго звалі Том). Дык мужык потым зусім сыйшоў з унівэру.
**І колькі яшчэ чалавек так "зусім пайшлі"?**
Не, потым мы проста пачалі забаўляцца, але заўсёды не хапала людзей. А вось у выпадку з крамай неяк ня так. Мы былі прыемна зьдзіўленыя. Фактычна ўсё зрабілі за нас, дастаткова было кінуць ідэю.
**А за прадаўшчыцу крамы не хваляваліся? Калі ў яе ў трохсоты раз спыталі адзін і той жа дыван, магло нешта і з псыхікай здарыцца...**
Не, за яе не хваляваліся. Толькі за сябе.
**Што прымусіла ўсіх гэтых людзей прыйсьці і нешта рабіць без усялякай карысьці?**
Ну, наконт карысьці - гэта яшчэ пытаньне. Асабіста для нас - гэта весела правесьці час, якога і так няшмат. А я думаю, гэта проста дапамагае зьняць стрэс, а ў такім горадзе гэта патрэбная рэч.
**Вы з самага пачатку называлі Флэш Моб Флэш Мобам?**
Ня ведаю, адкуль увогуле ўзялася гэтая назва. Мы гэта ніяк не называлі.
**Вы ведаеце, што гэтая забава пайшла па ўсім сьвеце? Ходзяць чуткі пра падобныя дзеяньні ў Эўропе і Бразыліі. Ці адчуваеце сябе заснавальнікамі нечага глябальнага?**
Я яшчэ не. А вось Джэйм ужо пачынае адчуваць. Хаця спачатку ў нашыя пляны гэта не ўваходзіла. Звычайны прыкол ператвараўся ў сусьветны. Значыць, такая зьвва, як Флэш Моб, патрэбная ў сьвеце - гэта вельмі радуе.
**Вашыя пляны? Ці зьбіраецеся ператварыць гэта ў шоў ці ў нешта іншае?**
Ніякіх шоў, гэта загубіць усю рамантыку! Калі ты аднекуль атрымліваеш паведамленьне і перадаеш гэта сябрам - усё робіцца ўпотайкі. Мы плянуем зрабіць самы вялікі ў сьвеце Флэш Моб, каб народу было некалькі тысяч. Адзінае пытаньне, дзе знайсьці такую пляцоўку. Але нешта прыдумаем. Вы яшчэ пра гэта напішаце.

## LINX

*flashmobber.ru* - інтэрнацыянальны рэсурс, некалькі форумаў, ёсьць асобны па Менску. Водгукі, ідэі і прапановы можна сюды, але... Шмат пустых разгонаў пра "быць ці ня быць мобу". Падчас майго наведваньня сайт быў пусты.

*forum.onliner.by* - тут ёсьць форум па першым беларускім ф-мобе. Шмат словаў і нічога канкрэтнага.

*flashmob.orgcom.ru* - прэтэндуюць на арганізацыйны цэнтар. Ужо больш за месяц у графе "Менск" нічога новага, толькі плян дзеяньня для першага Флэш Мобу.

*minsk-flashmob.by.ru* - ліст па першым нашым мобе, інфо і нічога болей.

*flashmob@tut.by* - як бы мыла, на якое быццам бы трэба скідаць ідэі і зь якога потым нібыта прыходзяць паведамленьні пра наступны ф-моб.





# ЯК ТЫ

1. НА ЯКІ ЎНІВЭР ТЫ Б ПАМЯНЯЎ СВОЙ?
2. НА ЯКІ ГОРАД ТЫ ПАМЯНЯЎ БЫ СВОЙ?
3. ЯКІМ ТЫ СЯБЕ БАЧЫШ // ЯКІ ВОБРАЗ ТЫ ХАЦЕЎ БЫ НА СЯБЕ ПРЫМЕРЫЦЬ?
4. У ШТО ТЫ АПРАНУТЫ?


1.


2.


3.

**Рыгор Петраж. АМ. Мастацкі факультэт.**
1. Хацеў бы вучыцца ў Піцеры альбо ў Празе. З-за самой атмасфэры свабоды: калі табе раптам закарціць вучыцца на рэжысуру, ты можаш павучыцца, скажам, 2 месяцы, а потым вяртаешся назад.
2. Хаця я ні разу ня быў ні ў Піцеры, ні ў Празе, упэўнены, што атмасфэра добра адбілася б на маім душэўным стане. Адначасова хочацца кантрастаў: сёньня, напрыклад, я хачу быць на хутары ці ў лесе, а пазаўтра - пайсьці на вечарынку.
3. Я стараюся выглядаць адпаведна свайму душэўнаму стану. Гэта 70-я гады, эпоха гіпі. Бо 70-я - гэта маё дзяцінства, і гэты час накладае адбітак на ўсё маё жыцьцё.
4. Боцікі DrMartens; штроксы чырвоныя з Бэрліну; знакамітая парыская кофта зь вялікай гісторыяй, якая перайшла да мяне ад сп. Бараўкова (?).

**Юры Разэнкранцэнбэрг. АМ (Акадэмія мастацтваў). Прыкладны ф-т.**
1. Мяне прыцягваюць установы толькі такога кшталту. Толькі АМ.
2. Я хацеў бы жыць у Ніцы. Там цёпла, там не бывае халодный зімы, там можна піць апэльсынавы сок кожную раніцу.
3. Я бачу сябе беларускім касманаўтам. Мяне хвалюе праблема невялікай колькасьці беларусаў, якія лятаюць туды, таму я - за беларускі космас. Высоўваю сваю кандыдатуру.
4. Майтачкі СК; пінжачок Yohi Yamamoto; штонікі зь ільну (уласнай вытворчасьці); хатнія пантофлікі, бо мне ў іх зараз зручна.

**Максім Калбанаў. АМ. Рэжысура драмы. 4 курс.**
1. На піцерскі Ўнівэрсытэт кінэматаграфіі. Можа быць, на ВГИК, бо ў АМ існуе мноства праблемаў у пляне адукацыі. Але, магчыма, мне толькі падаецца, што там лепей. Хутчэй за ўсё, ад сябе не ўцячэш, і таму я прымаю акадэмію як частку сябе.
2. У чалавека пры нараджэньні ёсьць вобраз, навошта чапляць на сябе нейкія ярлыкі? Вось, напрыклад, Skinheads ненавідзяць нэграў, у іх ёсьць вобраз, ёсьць адпаведныя ідэі, і гэтым яны абараняюцца ад зьнешняга сьвету.
3. Зьезьдзіў бы ў Індыю, у Тыбэт, Малдавію, Афрыку, але ня жыў бы нідзе больш за 1-2 гады.
4. Майткі чырвоныя, пашытыя на фабрыцы "Труд" маёй суседкай зь Віцебску; джынсы вэльвэт, шэрыя, пашараваныя, зашытыя, падраныя; боты - простыя, за 50 баксаў, Still, купляліся для паходу, але ў паход не пайшоў, таму засталіся на восень; швэдар Рыгора (гл. вышэй), аддадзены яму агульнавядомым сп. Бараўковым (???).

# ЯК ТЫ

1. НА ЯКІ ЎНІВЭР ТЫ Б ПАМЯНЯЎ СВОЙ?
2. НА ЯКІ ГОРАД ТЫ ПАМЯНЯЎ БЫ СВОЙ?
3. ЯКІМ ТЫ СЯБЕ БАЧЫШ // ЯКІ ВОБРАЗ ТЫ ХАЦЕЎ БЫ НА СЯБЕ ПРЫМЕРЫЦЬ?
4. У ШТО ТЫ АПРАНУТЫ?



1.





2.



3.

**Валодзя. АМ. Рэкляма. 3 курс.**
1. Калі казаць пра Беларусь, то толькі гэты. А наагул што-небудзь за мяжой, але па маёй спэцыяльнасьці. Пакуль вучоба цалкам мяне задавальняе, і ўсё ідзе добра.
2. Горад ня вельмі падабаецца, але ў цэлым духоўны стан Беларусі нармальны: тут добрыя людзі, тут цікава. А калі захочацца сыйсьці ад цывілізацыі, гэта цалкам магчыма: паехаць у лес, напрыклад, ці рушыць куды-небудзь у паход.
3. Жаданьне памяняць зьнешнасьць зьяўляецца часта, але яно даволі абстрактнае і цалкам залежыць ад моманту. Былі ідэі пафарбаваць усё адзеньне ў чорны колер, але, дзякуй Богу,
да гэтага справа не дайшла. Каб выглядаць так, як хочацца, патрэбная фінансавая ўстойлівасьць, якой пакуль няма.
4. Джынсы карычневыя; паласаты швэдрык; культавы гальштук - пра яго ўсе пытаюцца: "А што гэта ў цябе за анучка вісіць?" Я наагул калекцыяную гальштукі (30-40 шт.), і гэта мой любімы.

**Саша Крумшын. МДАСК (архітэктурна-будаўнічы коледж). Камэрцыйная дзейнасьць. 2 курс.**
1. Выпадкова патрапіў у гэты коледж, але яшчэ ня думаў пра тое, дзе б спадабалася больш.
2. Ды ну нафіг!
3. Адзін дзень я выглядаю як рась*зьдзяй, нават зьбіраюся купіць скейт для паўнаты вобразу. А на наступны дзень абуваю туфлікі на абцасе з вострым носам, апранаю чорныя гангстэрскія штонікі і абавязкова пінжачок Дольчэ&Габана.
4. Красоўкі; рукі перапэцканыя аранжавай фарбай; мастарка чырвонага колеру (Турцыя); Fat Farm штонікі з палоскамі па баках; ліхтарык - нязьменны атрыбут. А яшчэ на мне сёньня апранутыя не мае майткі.

**Слава. МДАСК. Камэрцыйная дзейнасьць. 2 курс.**
1. БДУ, факультэт міжнародных адносінаў.
2. Хачу жыць на Маёрцы, таму што там можна хадзіць у сямейніках, ні пра што ня парыцца, дзяўчынак шмат і ўсё такое.
3. Я прадстаўнік hip-hop нацыі ў Беларусі, займаюся вулічнай культурай, арганізоўваю канцэрты. Насамрэч я хачу бы сябе ўбачыць такім, якім я буду калі-небудзь...
4. Спартовыя пантофлікі; швэдар за 1,5 даляры; штаны EXTRA, белыя, перапэцканыя фарбай аранжавага колеру; цішотка Sport Nike; майткі Adidas; раменьчык Soner; шкарпэткі Adidas; матузкі карычневыя.



# РАБІ. СЯБЕ. САМ.

## усё пойдзе па тваім сцэнары

### навошта?

Ты малады і актыўны. Сярод тваіх знаёмых шмат людзей зь нестандартным мысьленьнем і цікавымі ідэямі. Вы робіце свае сайты, гуляеце ў КВЗ, пішаце музыку, ладзіце вечарынкі, выношваеце ў галаве кучу праектаў. Справа за малым рэалізаваць іх. І тут многія сутыкаюцца зь вядомым: "Каму, апроч мяне, гэта трэба?".

Гэта трэба ня толькі табе. Ва ўсім сьвеце актыўныя і крэатыўныя маладыя людзі дзякуючы свайму розуму, фантазіі, творчым і дзепавым здольнасьцям дасягаюць вядомасьці, папулярнасьці і пасьляховасьці. Такіх называюць self made – людзьмі, якія "зрабілі сябе самі".

Іх пасьпяховыя гісторыі становяцца прыкладам для ўсіх, іх капіююць ("быць як Шварцэнэгер, Бэкхэм" і г.д.). Гэтыя людзі становяцца ўвасабленьнямі нацыянальнай мары.

Нам не хапае сваёй Беларускай Мары – пасьпяховай гісторыі, канкрэтнага сцэнару, як можна рэалізаваць свае самыя, здавалася б, неажыцьцяўляльныя праекты і стаць вядомым, багатым і прыгожым. Справа за табой. Мы дапаможам табе і тваім сябрам – творчым і актыўным данесьці тваю Беларускую Мару да іншых.

Каб рэалізаваць яе.

Тут і зараз.

### мэта кампаніі

Каманды-удзельніцы павінны стварыць сацыяльную рэкляму (слоган, сцэнары аўдыё- і відэаролікаў, фотасэсіі); прадукт у простай і зразумелай форме павінен адлюстраваць, якой сабе ўяўляюць Беларускую Мару маладыя людзі ва ўзросьце 16-25 год.

### як стаць удзельнікам кампаніі:

**Зьбяры каманду** маладых, актыўных, творчых, прыгожых людзей ва ўзросьце ад 16 да 25 год, якія маюць амбіцыі і жадаюць праславіцца «сваім розумам». Памер каманды ад 3 да 6 чалавек. **Зарэгіструй сваю каманду.** Форму рэгістрацыі знойдзеш на **www.studumka.com** і ў нумары **"Комсомольской Правды" в Белоруссии" за 14 лістапада.**

### намінацыі

Пераможцы. Тытул прысвойваецца па выніках галасаваньня журы. Каманда-пераможца стварае відэа-, аўдыё-ролікі, становіцца героем фотасэсіі. Па заканчэньні кампаніі найбольш пэрспэктыўныя ўдзельнікі праходзяць стажыроўку ў рэкламных, прадусарскіх агенцыях і ў СМІ з магчымасьцю далейшага працаўладкаваньня.

Глядацкія сымпатыі. Прыз уручаецца па выніках галасаваньня за найлепшую каманду. Галасаваньне будзе праводзіцца на **www.studumka.com** і ў **"Комсомольской Правде" в Белоруссии"**.

### што павінны зрабіць удзельнікі:

каманда прымае ўдзел у майстар-клясах, якія будуць праводзіцца лепшымі прафэсіяналамі ў галіне рэкламы, PR, TV-, радыё-прадакшну;

па выніках майстар-клясаў каманда піша сцэнары відэа-, аўдыё-ролікаў і фотасэсіі на тэму "Беларуская Мара вачыма маладых";

пасьля адбору лепшага сцэнару каманда-пераможца з дапамогай прафэсіяналаў стварае відэа-, аўдыё-ролікі і рэкламныя плякаты – сваё ўвасабленьне Беларускай Мары – і сама здымаецца ў іх. Гэтая сацыяльная рэкламная прадукцыя зьяўляецца ў беларускіх мас-мэдыя.

### журы:

**Кірыл Валошын** – генэральны дырэктар TUT.BY / **Ірына Віданава** – галоўны рэдактар часопіса CD / "Студэнцкая Думка" / **Сяргей Кузін** – генэральны дырэктар "Альфа Радио" / **Юлія Ляшкевіч** – творчы кансультант Дзіцячага Фонду ААН (UNICEF) / **Юлія Навічонак** – PR, каардынатар інфармацыйных праграм Дзіцячага Фонду ААН (UNICEF) / **Юлія Слуцкая** – галоўны рэдактар газэты "Комсомольская Правда" в Белоруссии" / **Яўген Юноў** – творчы дырэктар Bates Primary / Saatchi&Saatchi (Менск).

# ЯК ТЫ

1. НА ЯКІ ЎНІВЭР ТЫ Б ПАМЯНЯЎ СВОЙ?
2. НА ЯКІ ГОРАД ТЫ ПАМЯНЯЎ БЫ СВОЙ?
3. ЯКІМ ТЫ СЯБЕ БАЧЫШ // ЯКІ ВОБРАЗ ТЫ ХАЦЕЎ БЫ НА СЯБЕ ПРЫМЕРЫЦЬ?
4. У ШТО ТЫ АПРАНУТЫ?


1.


2.


3.

**Настачка. МДАСК. Камэрцыйная дзейнасьць. 2 курс.**
1. Пайшла б на такую самую спэцыяльнасьць у эканамічны інстытут. У любым выпадку не мяняла б гэтага кірунку.
2. Я б засталася ў гэтым горадзе і нікуды б не зьяжджала, мяне тут усё задавальняе.
3. Хацелася б выглядаць эпатажна. У прынцыпе, мяне задавальняе мой вобраз. Пакуль што.
4. Макасіны чорныя, замшавыя; штонікі зялёныя з бэжавымі разводамі; самая любімая кофтачка з аранжавымі палоскамі.

**Віталік. МДАСК. Архітэктурны. 1 курс.**
1. У Беларусі - толькі гэты, а потым зьбіраюся на такі ж факультэт у БНТУ.
2. Я б зьезьдзіў у Лёндан, таму што гэта вельмі прыгожы горад. Ад архітэктуры Лёндану мяне нармальна каўбасіць. Але жыў бы ўсё адно тут.
3. Я бачу сябе такім, якім я ёсьць зараз, таму што ўсё, што прыходзіць у галаву, я тут жа ўвасабляю ў жыцьцё.
4. Бэжавыя красоўкі з салатавымі матузкамі; сінія джынсы; куртка ECKO, купленая паводле парады girlfriend; аранжавы шалік; мастарка old school, белыя майтачкі і 2 шкарпэткі, аднолькавыя, Stells bag.

**Марына Давыдава. МДАСК. Архітэктурны. 1 курс.**
1. У Бэрліне ёсьць нейкі самы файны ўнівэр, дзе вучаць на дызайнэраў. Туды і хачу. А з нашых - БНТУ.
2. Прага, толькі Прага. У пляне архітэктуры - проста абалдзенны горад. Мне падабаюцца вузкія вулкі, там шмат крамак і амаль нідзе няма асфальту. Рамантычны горад. Ах...
3. Я сур'ёзнай быць не магу, таму заўсёды такая - з растаманскімі шалікамі і ружовымі банцікамі.
4. Кеды Adidas (з салатавымі матузкамі), ружовыя, сьвецяцца ў нэонавым асьвятленьні; паласатыя шкарпэткі; рваныя калготкі, джынсы, спадніца, куртка зь вязаным верхам Ахага (бэжавая); шалік, зьвязаны мамай, жоўта-чырвона-зялёны; завушніцы зь лісткамі канопляў; вялізны ружовы бант на адным хвосьціку.



# ШУКАЮ НАРМАЛЬНУЮ ПРАЦУ

ПАЛЯВЫЯ ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

## МЫ НЕ ПРАДАЕМСЯ ТАННА!

Алёна Шалаева

**...Я стаю перад падзеленым на квадраты сталом і раскатваю туды-сюды фішкі. Баліць сьпіна і ногі. На гадзіньніку палова на другую ночы, наперадзе яшчэ чатыры гадзіны працы. Пытаньне "Навошта я сюды прыперлася?" становіцца навязьлівым. І ня толькі ў мяне: астатнія дваццаць дзевяць чалавек, якіх выбралі для працы ў казіно, парацца па той жа тэме. І калі для мяне казіно - чацьверты па ліку вынік пошуку працы па рэдактарскім заданьні, то для астатніх - ледзь не апошні шанец атрымаць працоўнае месца. Сьцяг ім у рукі: прайшоўшы сумоўе ў чатырох ня фуфельных (кшталту "Гербалайф") канторах, я ўпэўнілася, што толькі ёлупень спыніцца на ня самай цікавай працы. Рацыяналіст разумее - усе козыры для нармальнай працы ляжаць у ягоным рукаве. Толькі пасьпявай даставаць.**

Казіно - не Эвэрэст маіх мараў і магчымасьцяў. Трапіць сюды лёгка, але пытаньне "Ці хачу я займацца гэтым усё жыцьцё?", якое чыталася ў маіх чырвоных ад недасыпу вачах, паставіла ўсё на свае месцы. "Хопіць!", - сказала я сабе і пайшла спаць.

Патэнцыйнае месца працы для студэнтаў нават у час татальнага бязрыб'я знайсьці няцяжка: абвесткі ў газэтах, інтэрнэце, на слупах - "хто шукае, той знаходзіць" і ўсё такое. І ў першую чаргу - штодзённыя практыкаваньні positive attitude (напрыклад, кажы таму, каго бачыш у люстэрку: "У мяне ўсё атрымаецца", вучыся бачыць лепшае ў звычайным і інш.), якія сапраўды дзейнічаюць.

Аддаўшы тыдзень менавіта "настройцы", я вырашыла не спыняцца на паўдарозе. Па абвестках знайшла пару нармальных кампаніяў, якім патрабаваліся такія, як я - не ўнівэрсалы, але і ня зломкі. І паняслося! Тут толькі адзін выпадак працаўладкаваньня - у выдавецкую кантору.



## БЫЎ / НЯ БЫЎ / ТАК / НЕ / НЯ ВЕДАЮ

...Напачатку трэба скласьці рэзюмэ - сьціслую вучэбна-працоўную "біяграфію". Напісаньне рэзюмэ - праца даволі складаная, асабліва калі ў першы раз, а пісаць, па сутнасьці, няма чаго. Таму ў якасьці пэрсанальнага экспэрта і кансультанта ў мяне выступіў амбіцыйны малады чалавек Мікіта Раждзественскі, студэнт ЭГУ з замашкамі шэфа кансалтынгавай агенцыі. На карысьць яго сыграў 8-разовы досьвед уладкаваньня на працу (зь іх усе восем - пасьпяхова).

...Мы сустрэліся ў невялікай кавярні, дзе пад кубачак кавы малец для пачатку апрабаваў на мне прыёмы НЛП. Пасьля ўдалага завяршэньня пачаў тлумачыць тэхналёгію складаньня рэзюмэ і суправаджальнага ліста. Апошні, як аказалася, неабходны дадатак, што зьмяшчае апісаньне асабістых якасьцяў і тым самым дае больш дакладную характарыстыку прэтэндэнта. "Матывацыю і пасаду пішы таксама туды", - параіў ён. І дадаў: "Заўсёды пачынай танчыць з пасады".

У залежнасьці ад пасады варта расьпісваць здольнасьці і таленты. Мікіта ўпэўнены, што пасада, па сутнасьці, тавар. Ты так пазыцыянуеш сябе і займаеш тую нішу, дзе зьмяшчаецца твая ўнікальнасьць. Таму нашая задача - як мага больш выгадна яе прадаць.

У рэзюмэ зьмяшчаюцца толькі сухія, але яскравыя факты, якія могуць падштурхнуць працадаўцу да запаветнага "так, вы нам падыходзіце". Ясна, што такіх у мяне напачатку не аказалася. Але і тут я змагла выкруціцца.

Пастулят Мікіты - усё можна падаць у патрэбным ракурсе. Таму сваю нікому не патрэбную філялягічную адукацыю пры ўладкаваньні ў буйную кампанію на пасаду гандлёвага прадстаўніка я падала як гарантаванае ўменьне наладжваць зносіны і граматна тлумачыць мэту продажу (бо што-што, а языком мянціць нас навучылі).

Далей (гэта абавязкова) напісала пра дыплёмы, сэртыфікаты, стажыроўкі, праекты любога роду. Мікіта папярэдзіў, што ня трэба засьмечваць гэты пункт рэзюмэ рознай лухтой: "Працадаўцу нецікава будзе ведаць, як у 16 год ты працавала кур'ерам у нейкай рэдакцыі. Але калі падчас гэтай працы на 20% павысілася падпіска на выданьне, згадаць пра гэта абавязкова патрэбна".

Граматна складзенае рэзюмэ - ня тое, дзе пералічваюцца месцы працы (чым займаецца перакладчык ці маркетоляг, ведаюць усе), а тое, дзе распавядаецца, што рабіў і, самае галоўнае, што зрабіў. Напрыклад, "пасьляхова ўвёў 30 новых схемаў працы, якія ўзьнялі эфэктыўнасьць на 25%". Толькі канкрэтныя дасягненьні. Такім чынам, я абрала для свайго рэзюмэ ў якасьці ключавых словаў "дасягненьне", "унёсак", "інавацыі", "паляпшэньне". У выніку атрымалася, што калі напачатку пісаць асабліва не было чаго, то зараз мая вучэбна-беспрацоўная "біяграфія" выглядала салідна.

Асабістыя ўменьні і навыкі ўвайшлі ў суправаджальны ліст. Складаючы яго, важна памятаць, што акцэнт мусіць ставіцца на тых якасьцях, якія, як ты лічыш, павінен ведаць працадаўца. Пра свае хранічныя спазьненьні я вырашыла ня згадваць, а вось на адказнасьць і жаданьне працаваць не забылася. Урэшце, рэзюмэ - гэта ж ня проста анкетныя зьвесткі, а мастацтва хваліць сябе незаўважна, "шчыра не пра ўсё". Карацей, галоўнае - стварыць уражаньне, што той чалавек, якога кампанія чакала 10 год, што акрамя цябе ніхто больш ня зможа займацца дадзенай працай.

Калі рэзюмэ і суправаджальны ліст былі напісаныя, сакратарка сказала, што на сумоўе мяне запросяць трошкі пазьней - "празь некалькі дзён". "Трошкі" расьцягнулася на тыдзень, за які Мікіта пасьпеў даць мне кансультацыі.

### "ПАБАЗАРЫМ"

Сумоўе звалілася на галаву ў самы нечаканы момант (гарэў рэпартаж). І нават калі ўсе пытаньні і адказы былі прадуманыя і прааналізаваныя са спадаром Раждзественскім, па шчырасьці, мне было страшнавата. На сур'ёзнай працы і пытаньні павінны быць сур'ёзнымі, думала я, а Мікіта даваў па тэлефоне апошнія парады: "Давай! Дацісьні іх! Пакажы ім, колькі бляску ў тваіх вачах! Гавары стрымана, але ўпэўнена. Можаш пажартаваць, толькі з розумам. Зрабі які-небудзь камплімэнт: пахвалі паўдохлых рыбак у акварыюме, скажы, якая прыгожая сакратарка. Вазьмі візытоўку, яна мае моц дзесяці пашпартоў".

Мабыць, я выглядала як на фота ва ўласным пашпарце, бо ў першым прыёмным пакоі на мяне азірнуліся ўсе восем супрацоўнікаў. Агледзелі, як мае быць, далі анкету, якая шмат у чым перагукалася з рэзюмэ. "Каб не падманула, ці што?", - мільганула думка.

Праз хвілін 10 паклікалі да "шэфа". У звычайным кабінэце сядзеў чалавек гадоў 35. Было бачна, што тут сапраўды працуюць і што "дзірык" яўна не генэральны. Тым ня менш завучана ўсьміхнулася. "Дзірык" пачаў вывучаць анкету, потым дастаў з-пад стала рэзюмэ, зьверыў (я так і думала) і моўчкі ўтаропіўся ў пункт "адукацыя".

"Чаму па спэцыяльнасьці не працуеце?" - цяжкі стомлены позірк засяродзіўся на мне. Блін, такія адчуваньні, быццам дэкан злавіў пасьля разьмеркаваньня. "Ну, - кажу, - месцаў няма". "А Вы шукалі?"

Я разгубілася. Гэта мы зь Мікітам не абмяркоўвалі. Панічна пачынаю шукаць акварыюм з рыбкамі ці сакратарку. Зразумела, ні таго, ні другога. Тут на мяне абваліліся цунамі пытаньняў пра вучобу, унівэр, выкладчыкаў, сямейнае становішча, якія кніжкі я люблю чытаць і што ведаю пра іх кампанію.

У той момант мне падалося, што я наагул нічога ня ведаю. Раптам мой экзэкутар працягнуў асадку і прапанаваў яму яе прадаць.

Адчуваючы сябе пацыенткай "Навінак", пачынаю апісваць якасьці "ручки шариковой". Недахопаў атрымалася больш: "пяро" было ня супэр. Тут "дзірык" перайшоў на больш лагодны тон: "Ды ты не зьдзіўляйся, Лена ("О, - думаю, - спрацавала. На "ты" перайшоў"), у цябе ж няма досьведу гандлёвай працы, таму я пра такія рэчы пытаюся".

Калі ў мяне больш не заставалася ні сілаў, ні жаданьня размаўляць, гаварыць пачаў "шэф": пра кампанію, пра працоўны графік, пра кар'ерны рост і... пра мае абавязкі. Карацей, я трапіла! Зараз надыйшла мая чарга задаваць пытаньні. Паводле словаў Мікіты, уладкаваньне на працу - узаемапродаж: ты ім - свае ўменьні / навыкі, свой час і жыцьцё, яны табе - грошы, пасаду, кар'еру. Таму абсалютна нармальнымі былі патрабаваньні да працадаўцы. Мяне цікавіла перш за ўсё магчымасьць кар'ернага росту і заробак.

Адзінае, што я зразумела з тырады "дзірыка" пра кар'еру - гэта тое, што яна ёсьць. Магчымая і нават пажаданая. Заробак (ёлы-палы, што я згубіла!) - 70 у.а. плюс адсоткі. Пры добрасумленнай працы яны складалі яшчэ 100-120.

Нарэшце мне назвалі дату, калі я магу прыступаць да сваіх абавязкаў...

"Нумар чацьверты ёсьць!" - самазадаволена падумала я і рэтыравалася з канторы, не забыўшы паказаць фак нейкаму офіснаму хлопчыку, які ўжо прымяраўся позіркам да маіх ног.

Так, я "перадумала": на шчасьце, у мяне ёсьць праца, якой я пляную займацца ўсё жыцьцё. Але зараз я магу выгадна сябе прадаць. І кожны зможа, калі толькі захоча. Таму што мы - маладыя! Мы ведаем, чаго хочам ад гэтага жыцьця!! І мы не прадаемся танна!!!

Дзякуй "Коллекции открытий" і "Alpina Consult" за дапамогу.

# "ЧАМУ БЯЗ ШАПКІ?"

## самыя гадасныя пытаньні працадаўцы і самыя геніяльныя адказы на іх

### "ЗЬ ЯКОЙ ПРЫЧЫНЫ СЫЙШЛІ З РАНЕЙШАГА МЕСЦА ПРАЦЫ?"

Калі вы кампэтэнтныя ў той галіне, да якой адносіцца новая пасада: "Я перарос прапанаваныя мне магчымасьці. Паступова падыходжу да таго моманту, калі магу ў лепшы бок зьмяніць тое, чым займаюся".

Калі папярэдняе месца працы кардынальна адрозьніваецца ад магчымага будучага: "Я шукаў сябе. Тое, чым я займаўся, не прыносіла маральнага задавальненьня, нягледзячы на тое, што працаваў я сумленна. Зараз канчаткова вызначыўся: хачу працаваць толькі ў вашай кампаніі".

Нэўтральны варыянт: "Не задавальняў заробак". Названая сума павінна быць сапраўды мізэрнай.

Катэгарычна забараняецца казаць: "Пасварыўся з шэфам / Кіраўніцтва не задаволіла / Кепскі працоўны калектыў / Гэта была такая вар'яцкая кампанія! / Нязручны графік працы".

### "ЯКІ ЗАРОБАК ХОЧАЦЕ АТРЫМЛІВАЦЬ?"

"... у.а. - гэта мінімальная сума, пры якой я захоўваю працаздольнасьць".

Калі шэф кажа, што названая сума - гэта шмат: "Я разумею Ваш скептыцызм. Мне імпануюць людзі, якія не марнуюць грошы. Сапраўды, можа гэта і шмат для мяне зараз, але я хачу дарасьці прафэсійна да гэтага заробку. Вы ўпэўніцеся, што я здольны на многае і варты большага".

Ідэальны варыянт: даведацца пра заробак у дадзенай арганізацыі і назваць сярэднюю суму.

Не рэкамэндуецца: заніжаць суму з мэтай "абы трапіць". Пасьля ўзьняць заробак будзе вельмі цяжка.

### "ВЫ - МАЛАДЫ, У ВАС НЯМА ДОСЬВЕДУ ПРАЦЫ"

"Вы ведаеце, зараз час маладых. Хочаце, каб Ваша кампанія праіснавала яшчэ 50 гадоў? Толькі маладыя супрацоўнікі выратуюць сытуацыю".

"Так, я студэнт. Але гэта ня значыць, што я дрэнны супрацоўнік. Гэта значыць, што ў мяне гнуткія мазгі, і таму я вучуся ў 100 разоў хутчэй за 45-гадовых. Гэта значыць, што мой мозаг здольны генэраваць ідэі, а значыць, зарабляць грошы для Вашай кампаніі. Гэта значыць, што ў мяне вялікая працаздольнасьць і шмат сілаў, якія я магу патраціць на Вашу кампанію!"

"Ведаеце, я закаханы ў Вашу кампанію, я хварэю на яе не адзін год. На жаль, я не працаваў па дадзенай спэцыяльнасьці, але ў мяне ёсьць некалькі варыянтаў (асьцярожна з гэтым, бо ідэі лёгка крадуцца) схемы продажу / паляпшэньня якасьці тавару / стварэньня больш якаснай прадукцыі і г.д. Гарантую, празь месяц я буду ведаць усё пра сваю працу".

Не рэкамэндуецца адмоўчвацца.

### "НАВОШТА ВАМ ГЭТАЯ ПРАЦА?"

"Я даўно пра яе марыў. Я зрабіў (пералічваеце), каб трапіць сюды. Я хачу працаваць менавіта тут".

"У мяне ёсьць ідэі, якія я магу рэалізаваць толькі ў Вашай кампаніі. Я ўпэўнены, што яны файна спрацуюць, таму не магу аддаць іх проста так. Я таксама ўпэўнены, што калі Вы дапаможаце мне ў рэалізацыі гэтых ідэяў, кампанія атрымае вялікі прыбытак".

Катэгарычна забараняецца казаць: "Мне патрэбная любая праца / Мне патрэбныя грошы / Я ведаю (мне казалі), што тут можна зрабіць кар'еру / Нескладаная праца / Я тут недалёка жыву".

# ПАРТЫZАНЫ

## ПА КОНЯХ, AMIGOS!

Марта Цісевіч

### ZAPATISTA

**Тое, чаго мы чакалі і баяліся, урэшце адбылося. Субкамандантэ Маркас, мэксыканскі Герой У Масцы, Zorro сучаснасьці і апошняя надзея прагрэсіўнага чалавецтва, зьнік у невядомым накірунку. Зьнік, пакінуўшы аднадумцам надзею, а ўсім астатнім - расьпіяраную цяпер ужо "па самае не магу" ідэю сапатысцкага раю на зямлі. Нашы, як заўсёды, першымі ловяць успышку: беларускія фэйсмэны ў масках Zet запусьцілі ў ратацыю новы кліп "Калгас", а заадно паабяцалі парваць усіх сваім новым альбомам. Адназначна, наперадзе - чарговы віток партызанскай моды. Рыхтуемся загадзя: перад вамі галерэя баявой славы гордых нашчадкаў Zorro.**

**ХТО ЯНЫ:** EZLN (Сапатысцкая Армія Нацыянальнага Вызваленьня) - рэвалюцыйнае ўтварэньне мэксыканскіх індзейцаў. 1 студзеня 1994 г. паднялі першае паўстаньне ў сувязі з пачаткам дзеяньня глябалісцкай дамовы NAFTA аб адзінай эканамічнай прасторы паміж ЗША, Канадай і Мэксыкай.
**АДКУЛЬ НАЗВА:** Называюцца ў гонар Эміліяна Сапата (1879 - 1919) - іхнага Кастуся Каліноўскага.
**ХТО ЁН:** Субкамандантэ ("недакамандзір") Маркас (19?? - …) - лідэр руху сапатыстаў. Ніколі не здымае чорнай лыжнай маскі. Называе сябе "перакладчыкам для ўсяго сьвету з мовы індзейцаў мэксыканскай сэльвы". Узяў псэўданім у гонар забітага сябра. Па апошніх зьвестках, бясьследна зьнік - паляцеў, не паабяцаўшы вярнуцца тысячам Малышоў сэльвы, узброеных "калашамі" і вясёлкавымі ідэямі свайго "камандантэ мары".
**ХТО ЁН НАСАМРЭЧ:** Паводле афіцыйных зьвестак мэксыканскіх спэцслужбаў, сапраўднае імя Маркаса - Рафаэль Сэбасьцьян Гільен Вінсэнтэ. Нарадзіўся ў сям'і пабожнага гандляра мэбляй у порце Тампіка (шт. Тамаўліпас, Мэксыка). Эўрапеоід, хрышчоны (каталік). Вывучаў філязофію й літаратуру ў Нацыянальным аўтаномным унівэрсытэце Мэхіка. Зьнік з далягляду ў пачатку 80-х, акурат тады, калі субкамандантэ Маркас зьявіўся ў сэльве з тузінам хаўрусьнікаў, вывучаючы культуру індзейцаў і прапагандуючы ідэі марксызму-ленінізму.
Сам Маркас то рашуча абвяргае гэтую вэрсію, то кпіць зь яе. "Вы хочаце бачыць мой твар?" - пытаецца ён у гледачоў сапатысцкага дакумэнтальнага фільму і пачынае сьцягваць лыжную маску. Кадар мяняецца - з-пад маскі вылузваецца люстэрка, у якім адбіваюцца дзясяткі мужчынскіх і жаночых твараў людзей усіх узростаў і нацыянальнасьцяў.
**Што піша:** Баявыя зводкі, рэвалюцыйныя адозвы, тэарэтычныя трактаты, філязофскія прыпавесьці, эсэ ў духу магічнага рэалізму, песьні і вершы. Апрацоўвае індзейскія міты, цытуе Борхеса, Картасара, Кастанэду, Шэксьпіра. Ягоныя творы сталі ідэйным падмуркам руху антыглябалістаў. Апроч маскі і "калашнікава", нязьменны атрыбут Маркаса - ноўтбук, праз які ён проста зь лесу вешае напісанае ў сеціва - б'е капіталістаў іхнай жа зброяй.
**ЧАМУ ПАРТЫЗАН:** Хаваецца ў сэльве. З 1994 г. стала змагаецца супраць мэксыканскага ўраду. Пад кантролем ягоных брыгадаў - ладны кавалак штату Чыяпас на поўдні краіны.
**АКТУАЛЬНАСЬЦЬ ІДЭІ:** Маркас ператварыў антыглябалізм у моду раней, чым ён стаўся палітычнай сілай. Мадона шалее ад Маркасавых песень, а сам клясык магічнага рэалізму Гарсіа Маркес бярэ інтэрвію ў свайго літаратурнага пасьлядоўніка. Тым часам заходнеэўрапейскія студэнты апранаюцца ў сэкандах, харчуюцца выкінутым з гіпэрмаркетаў пратэрмінаваным food'ам. Суполка беларускіх мастакоў і філёзафаў, якая пасьпяхова прадставіла ў Францыі свой пARTызанскі праект, зьбіраецца зь ім у Нарвэгію і тэрмінова шукае аўтэнтычны самагонны апарат у працоўным стане, каб пазнаёміць скандынаваў з напоем сапраўдных партызанаў - камэрцыйнай апазыцыяй дзяржаўнай гарэлцы.
**Чытво:** Субкамандантэ Маркас. "Іншая рэвалюцыя: Сапатысты супраць новага сусьветнага ладу" - зборнік эсэ і артыкулаў у перакладзе на расейскую.

## THE REZIDENTS

**Хто яны:** The Residents (насамрэч праз s) - чатыры чомары, якія носяць смокінгі і маскі ў форме вочных яблыкаў. Клічуць іх Mr.Resident, A.Residents, Residents і Mr.Scull. Апошні, калі ў яго сьперлі "вока", пачаў насіць маску чэрапа.
**Адкуль назва:** Спачатку музыкі меркавалі застацца безназоўнымі. Назву атрымалі ў 1970-м, калі з "Warner Bros" ім вярнулі першую дэмаленту з пазнакай "for the attention of residents".
**Што граюць:** Клясычны рок, арт, industrial, панк, электронны мінімалізм, сымфоніі, опэры, запісваюць саўндтрэкі да фільмаў. Практыкуюць шумавыя інсталяцыі і пэрформансы ў стылі поп-арт.
**Хто яны насамрэч:** Невядома. Ёсьць меркаваньне, што зараз пад маскамі хаваецца зусім ня той склад, які пачынаў у 1970-х.
**Чаму партызаны:** Фактычна не зьяўляючыся на людзях, праз скандалы і містыфікацыі здабылі статус культавай андэрграўнд-каманды. Па маладосьці часта нарываліся на цэнзуру (і гэта ў Амэрыцы!). У 1973 годзе, напрыклад, продаж альбома "Meet the Residents" быў спынены: на вокладцы красаваліся бітлы-вампіры. За кружэлку "Third Reich-n-Roll" (на вокладцы Гітлер трымае моркаўку) былі западозраныя ў нэанацызме. Нярэдка дазвалялі сабе пацешыцца з фанатаў, выпускаючы кружэлкі з трыма бакамі, альбо дыск "Not Available", які 4 гады існаваў толькі віртуальна. Першымі зладзілі канцэрт за напаўпразрыстым экранам.
**Жыцьцяздольнасьць ідэі:** The Residents першымі з сучасных музыкаў зрабілі маскі асновай іміджу. Менавіта яны ўвялі моду на поп-ананімнасьць.
У 90-х у Амэрыцы паўсталі і неўзабаве набылі папулярнасьць дзьве замаскаваныя каманды. Mushroomhead - "грыбагаловыя", носяць чорныя скураныя маскі і граюць готык-мэтал. Крыху крыўдуюць на SlipKnot: ніхто ня верыць, што гэта SlipKnot, які паўстаў на два гады пазьней, пакраў у іх фішку са схаванымі тварамі. Паводле SlipKnot, іхныя маскі першапачаткова - боязь быць засьмяянымі абываталямі гарадку, у клюбах якога яны пачыналі, а цяпер - alter ego кожнага зь іх. На лідэры SlipKnot Шоне Крэгане (Shawn Crahan) - звычайна маска клоўна з мозгам, які вывісае вонкі… Як на мяне - гэта ня alter ego, а дыягназ.
Абодва гурты, хоць і залішне змрочныя, але ўсё-ткі дзеці таго карнавалу, які цягам 30 год муцілі the Residents.
**Сеціва: www.residents.com/misc/costumes.html** - тут можна пабачыць выставу строяў, у якіх цягам 30 год the Residents зьяўляліся на людзях.







## MUSLIMGAUZE

**Хто ён:** Брын Джонс (1961 - 1999), пры жыцьці закансьпіраваны андэрграўндны, а пасьля сьмерці культавы брытанскі электроншчык. Існаваў ізалявана. За ўсё жыцьцё даў 5 інтэрвію і 7 канцэртаў. Не любіў фатаграфавацца, таму ніводнага партрэту пасьля яго не засталося. Нягледзячы на тое, што Muslimgauze - ягоны сольны праект, заўсёды казаў пра сябе ў множным ліку, як пра гурт. Быў надзвычай крэатыўным: за 15 год запісаў 90 альбомаў і прыкладна столькі ж не запісаў (сям'я і сябры зводзяць стужкі, што пазаставаліся, у пасьмяротныя кружэлкі). Памёр у родным Манчэстэры ад рэдкай хваробы крыві.
**Адкуль псэўданім:** Muslimgauze на беларускую можна перакласьці як "мусульманскі газ". Маецца на ўвазе найтанчэйшая тканіна - матэрыя, якая толькі й здольная перадаць фактуру музычных экспэрымэнтаў Брына Джонса.
**Што граў:** Прыхільнікі вызначаюць стыль Muslimgauze не інакш як dark/minimal/romantic/enlightening/twisted/harsh/brutual/soft/etheral/ambient/lush/intense. Кудысьці падзеўся яшчэ industrial, які істотна паўплываў на Джонса напачатку кар'еры. Брын меў звычку скарыстоўваць у творчым працэсе "ўсё, што трапляецца пад рукі", апроч уласна кампутарнай тэхнікі і сэмплераў. Іх ён лічыў тым, што вядзе да глябалізацыі заходняй электроннай музыкі, змушаючы розныя гурты гучаць падобна. Канву ягоных кампазыцыяў складала аўтэнтычная пэркусія - безьліч барабанаў усіх часоў і народаў.
**Чаму партызан:** Творчым прынцыпам Muslimgauze была паэтызацыя ўсяго, што зьвязана зь ісламскім сьветам. Нават назвы ягоных альбомаў гучаць як песьня: "Салям алейкум, выблядак", "Злучаныя штаты Ісламу", "Алімпійская жаночая зборная Ірану па настольным тэнісе", "Над блакітным мячэтам". Яго лічылі то ірляндзкім тэрарыстам, то баевіком Арганізацыі Вызваленьня Палестыны, хаця ён знаходзіўся па-за палітыкай, у сфэры чыстага мастацтва. Кожная трывожная зьвестка з Палестыны, Аўганістану альбо Іраку служыла яму эмацыйным штуршком для запісу кампазыцыі. Пры жыцьці ён так і ня зьезьдзіў на Блізкі Ўсход, кажучы, што гэта вышэй ягоных сілаў - ступіць на зямлю няволі.
**Жыцьцяздольнасьць ідэі:** Брын Джонс памёр, але справа яго жыве. Вечары памяці Muslimgauze праходзяць у фармаце фэстываляў электроннай музыкі. Ягоныя маскоўскія пасьлядоўнікі з надрывам, уласьцівым апроч іх хіба што амэрыканцам і брытанцам, сьпяваюць пра нялёгкі лёс чачэнскага народу пад пэркусію і "сэмпляваныя арнамэнты гукаў".
**Сеціва: www.pretentious.net/muslimgauze** - сайт, які дбайна падтрымлівае і абнаўляе блізкі сябар і паплечнік Muslimgauze Тэры Бэнэт (Terry Bennet).



## GORILLAZ

**Хто яны:** Мульцяшкі: рамантык 2D (вакал, клявішы); сатаніст Мэрдак (бас); рэпэр Расэл (бубны); 10-гадовая японская каратыстка Noodle (гітара).
**Што граюць:** у словазлучэньні "кібэр-рэп-поп-хаўс-панк-хіп-хоп-рэгей-джаз" галоўнае слова "кібэр" - усё астатняе неістотна.
**Хто яны насамрэч:** Лідэр - брыт-попэр Дэвід Элбарн (Blur), якому закарцела заняцца электроншчынай. Зь ім сябры - рэпэр Дэн Накамура па мянушцы The Automator, вакалістка япона-амэрыканскага дуэту Cibo Matto Міхо Хаторы, Тына Ўэймаўт і Крыс Франц (экс-Talking Head), Del Tha Funky Homosapien і вэтэран кубінскага джазу Ібрагім Фэрэр. Кампанія нявелькая, але "бардзо пажондная" і крэатыўная. Мульцікі намаляваў мастак Джамі Х'юліт, аўтар культавых коміксаў Tank Girl.
**Чаму партызаны:** Існуюць пераважна ў інтэрнэце. Падчас жывых канцэртаў выступаюць за экранам, на якім паказваюць мульты. Паслалі далёка арганізатараў Mercury Awards, калі тыя хацелі даць ім прэмію за лепшы дыск 2001 г. Дурэюць, экспэрымэнтуюць - а іншыя ўсур'ёз ад гэтага пруцца.
**Сеціва:** Зайшоўшы на адрас **www.gorillaz.com**, можна нарвацца на маляваную рэзыдэнцыю гурта.





## ZIET

**Хто яны:** Самаазначэньне - ВІА, "вакальна-інструмэнтальны атрад". Завуць іх Канцлер (вакал, гітара), Стронг (гітара), Акрабат (бас), Маньяк (бубны), Рыба (скрыпка). Штодзённыя куклукскланаўскія маскі часам мяняюць на сьвяточныя: Майкла Джэксана, Сальвадора Далі, клоўна Роні і інш. У адным зь інтэрвію прызналіся, што пад маскамі зямляне пабачылі б іх зморшчаныя зялёныя твары пасланцаў іншай цывілізацыі.
**Адкуль назва:** У лягатыпе Zet яўна чытаецца росчырк Zorro. Паводле словаў аднаго з музыкаў, "Zet - гэта рок-гурт бяз твараў, які мае місію ратаваць сьвядомасьць людзей, як калісьці Зора ратаваў людзей ад сьмерці фізычнай".
**Што граюць:** Усё - ад funk і industrial да флямэнка "Крыжачок - танец сьмерці". "Ад скрайніх мэтал-плыняў да блатняку. Каб не прызвычайваліся," - пазначана ў іхным "маніхвэсьце". Сьвядома нефарматныя.
**Хто яны насамрэч:** Усе гэта ведаюць, але ніхто ня кажа ўголас. Журналісты іранічна называюць лідэра гурта "ён" і "самі-ведаеце-хто". Народ ціха сьцябецца, калі ў супольных канцэртах Zet папярэднічае NRM'у. Калектывы, аднак, ня тоесныя, хоць кожны з zet'аўцаў ёсьць актыўным дзеячом тутэйшай музычнай прасторы.
**Чаму партызаны:** На іх першых выступах адрывалася безьліч маладзёнаў у аранжавых майках-"выбірайках". У верасьні 2001 такі родны і знаёмы голас з-пад белай маскі абвесьціў у рэпартажы на НТВ: "Я мяркую, рэвалюцыя непазьбежная". Аднак па выбарах Zet, насуперак чаканьням, не схаваўся ў бульбу, а працягнуў баявыя дзеяньні, упэўнена прасоўваючы ў масы свае антыфарматныя погляды: усё - папса, бо ўсе - фармат, і адзіны сродак ня быць папсою - гэта цячы і зьмяняцца. Што яны, улясна кажучы, і робяць.
**Сеціва:** www.radzima.com. А тым часам з www.smotritel.com можна скачаць сьвежы кліп Zet на песьню "Калгас". Можа, хоць у вас гэта атрымаецца.











Z





## ATTENTION: THERE IS A WORK



Часопіс CD / "Студэнцкая Думка" абвяшчае пра наяўнасьць вакансіяў. На сталае супрацоўніцтва запрашаюцца:

**вакансіі ў CD**

**МУЗЫЧНЫ АГЛЯДАЛЬНІК**
Патрабаваньні: свабодная арыентацыя ў рок- і электроннай музыцы, нестэрэатыпнае мысьленьне, добрыя стасункі зь беларускімі музыкамі, прамоўтэрамі.
Досьвед працы ў беларускіх музычных выданьнях - непажаданы.

**КІНААГЛЯДАЛЬНІК**
Патрабаваньні: нешаблённыя погляды на сучасны (мэйнстрым, арт-хаўз) кінэматограф, свабодная арыентацыя ў падзеях кінасьвету (Беларусь, Эўропа, Амэрыка, Азія), наладжаныя кантакты з арганізатарамі менскіх кінапаказаў, нестандартныя падыходы да асьвятленьня тэмаў.

**РЭДАКТАР АДДЗЕЛУ FASHION**
Патрабаваньні: свабодная арыентацыя ў апошніх тэндэнцыях "высокай моды" і fashion street, наладжаныя кантакты з прадаўцамі ці дырэкцыяй менскіх "модных" крамаў (адзеньне, аксэсуары).
Уменьне пісаць - абавязковае.

**РЭДАКТАР АДДЗЕЛУ "CD-NEWS"**
Патрабаваньні: цікаўнасьць, пранырлівасьць, наяўнасьць сеткі інфарматараў (як мінімум у трох ВНУ сталіцы, у тым ліку ў прафкамах), уменьне працаваць зь інфармацыяй, пазытыўнае нестандартнае мысьленьне. Досьвед працы ў якасьці стрынгера ў СМІ ці ва ўнівэрсытэцкай газэце пажаданы.

**РЭПАРТЭР**
Патрабаваньні: мабільны, крэатыўны, стaранны, адказны, пажадана з журналісцкай ці філялягічнай адукацыяй (можна нясконачанай). У наяўнасьці - свабодная і незакамплексаваная арыентацыя ў сацыяльных праблемах менскай моладзі. Пажаданы досьвед працы ў СМІ.

**РЭКЛЯМІСТ**
Патрабаваньні: крэатыўны, мабільны, стaранны, пажадана з pr / рэклямнай адукацыяй (можна нясконачанай).
У наяўнасьці амбітнасьць, мэтанакіраванасьць, здольнасьць рэалізоўваць уласныя і чужыя ідэі. Досьвед працы ў рэклямных аддзелах СМІ вітаецца.

**Пры адборы прэтэндэнтаў перавага будзе аддавацца студэнтам любой формы навучаньня, а таксама школьнікам старэйшых (10-11) клясаў. Уменьне пісаць - у наяўнасьці. Пол і прапіска значэньня ня маюць. Рэзюмэ ў адвольнай форме і ўласныя тэксты па тэматыцы дасылайце на адрас: studumka@tut.by**

**Падрабязнасьці - (017) 228 62 06.**



MOUNTAINBOARD



X team

# MOUNTAINBOARD

## XTEAM

### ХАМЭР ПАД НАГАМІ

Арцём Рамановіч

**“...калі стаіш на вяршыні схілу, даволі страшна. Адчуваеш нават свой пульс. Любы невялікі ўзгорак можа прынесьці пару сюрпрайзаў. Потым пачынаецца спуск, і ты разумееш: гэтая штука, на якой ты стаіш, можа праехаць па ўсім і па ўсіх...”**

**МТВ: МОЖА, ТРОХІ BEER'У?**

Нядаўна, гуляючы па нэце, я наткнуўся на цікавую фотку: хлапчук вырабляе нейкі піруэт на невядомым мне прыстасаваньні. Як потым высьветлілася, пад нагамі ў яго была горная дошка, альбо mountainboard (МТВ). Прылада мяне зацікавіла, і я пачаў калупаць глябальную сетку з адзіным пытаньнем: “Што за..., і дзе...”. Аказалася, што нават у нас такую штукенцыю можна ўзяць напракат ва ўсялякіх там Якутах, а хутка можна будзе і ў Лагойску. Праз форум паспрабаваў выйсьці на аднаго аматара, ці прынамсі карыстальніка горнай дошкі, які жыве і практыкуецца ў Менску. Даслаў на мыла ліст, маўляў, патрэбная інфа, давай сустрэнемся. На наступны дзень у скрыні знайшоў адказ: няма пытаньняў, вось мой часовы тэлефон. Адразу набраў нумар *******. У выніку: “...Ну, давай у 17:00 пажуем круасанаў каля ЦУМа”.
Я прыйшоў загадзя. Раптам падыходзіць у меру патлаты чувак - зьлёгку дзіравыя джынсы, талстоўка і боты ў стылі “танкі бруду не баяцца”. Першае, што ён сказаў: “М-м-м, можа піва?” Трохі пазнаёміўшыся, я пачаў дапытваць аб'ект.

***Пару словаў пра сябе: колькі год, чым займаешся ў звычайным жыцьці і г.д.***
*Сябры і бацькі называюць мяне Алекс. Атрымліваецца, гэта і ёсьць маё імя. 22 было ў жніўні. Вучуся завочна ў нархозе, працую адмінам у кампутарным клюбе. Люблю піва. І круасаны таксама люблю.*

***Добра. Пра МТВ я ведаю толькі тое, што пішацца гэтае слова праз 10 літар. Растлумачыш, што да чаго?***
*Думаю, пераклясьці з ангельскай няцяжка. “Горная дошка” выглядае як першы скейтборд. Але я б назваў гэта скейтборд+сноўборд. Гэткі гібрыд, на якім можна катацца па зямлі, асфальце, камянях, брудзе, пяску - падыйдзе ўсё. Сама дошка даволі шырокая, нашмат большая за скейт. Плюс падвеска і 4 колы.*

***І дзе такім монстрам можна карыстацца?***
*Ды, блін, дзе хочаш. Гэта ж офроўд, дзе хачу, там і еду. Спэцыяльных пляцовак ня трэба. Любы парк, узгорак, спуск і г.д.*

***Сам дзе катаешся?***
*Маё працоўнае месца - Лошыца, па выходных люблю ў Якуты альбо ў Раўбічы выехаць - трасы больш экстрэмальныя.*

***Увогуле, адкуль даведаўся пра МТВ?***
*Ну, глядзеў неяк год таму “Эўраспорт”. Зыру, нейкі цікавы інструмэнт. Ідэя настолькі простая, што спадабалася мне адразу. На той момант я спрабаваў знайсьці сябе на скейце, але ў нашым антыскейтавым горадзе не атрымалася. А тут усё банальна, і можна так экстрэмаліць!*

***Твая першая дошка?***
*Замовіў у Польшчы за $210. Можаш і сам так паспрабаваць. Можна напракат узяць, а каб так свабодна купіць - не, пакуль у нас ня бачыў.*

***Добра, пакажаш, што за яно?***
*Ну-у-у... Давай у нядзелю ў Серабранцы, на канцавым трамваяў 3,7,8.*



**ОФРОЎД У СЕРАБРАНЦЫ**

Гэтым разам я спазьніўся. Трохі імжыў дождж. Перада мною стаяў нейкі тэхаскі каўбой. Маскарад спэцыфічны: адразу бачна, без аховы ён нікуды. “Можа, піва...” - звыклая першая фраза.
- Пайшлі пакажу, на што здольны гэты малец.
Першае, што мяне зьдзівіла - гэта хуткасьць. Са схілу зьязджае нейкі бульдозэр у стылі сноўборда і на хуткасьці ровара. Штука аказалася даволі манэўраная.

***Ці ёсьць розьніца па адрэналіне паміж скейтам і МТВ?***
*У-у-у, вядома ж ёсьць. Калі стаіш на вяршыні схілу, даволі страшна. Адчуваеш нават свой пульс. Любы невялікі ўзгорак можа прынесьці пару сюрпрайзаў. Потым пачынаецца спуск, і ты разумееш: гэтая штука, на якой ты стаіш, можа праехаць па ўсім і па ўсіх. Ад гэтага атрымліваеш такі кайф, што, здаецца, можаш калі ня ўсё, дык вельмі шмат.*

Потым Алекс спрабуе павыёжвацца: скокнуць з трампліна і ў паветры зрабіць пару фічаў. Няўдала. Даводзіцца пакачацца па зямлі.

***Колькі разоў што-небудзь ламаў?***
*Ніколькі, але падаць балюча. Спачатку спрабаваў без усяляких прыстасаваньняў катацца - дарма. Пару разоў каленкі разадраў і зьвіх атрымаў. Таму ня строй зь сябе каўбоя - асьцерагайся.*

Асабліва цікава было бачыць рэакцыю людзей, якія праходзілі міма. Некаторыя стараліся абходзіць бокам, іншыя глядзелі як на слана, але склалася ўражаньне, што Алексу гэта пофіг. Адчувалася: чалавек атрымлівае рэальны кайф ад самога працэсу.

***Узімку чым будзеш займацца?***
*Стану на сноўборд і буду чакаць лета.*
***Катаешся адзін ці вас тут цэлая банда?***
*Ёсьць яшчэ два знаёмыя. Бандай цікавей. Але ж спорт у нас ня надта і вядомы, таму людзей мала.*

Бліжэй да вечару Алекс быў пакрыты ладным слоем бруду. З задавальненьнем сказаў: “Ха! Усё, можна лічыць, дзень пражыты не дарэмна”.

***Што думаеш пра пэрспэктывы МТВ тут?***
*Рэч даволі даступная, толькі народ пакуль не інфармаваны. Калі ўсё пойдзе нармальна, то гэта можа перарасьці ў рэальны бум. Галоўнае ў нашай справе - прастата.*

X team

Аліса Ўондэр

Сьніўся мне сон: тысячы мужчын і жанчын стаяць у шматкілямэтровай чарзе за квітком на “Бруса Ўсемагутнага”. Вецер не варухне іх застылыя ад лаку валасы, палёт птушкі ня выкліча на іх тварах усьмешкі... Усе чакаюць дозы.

ART HOUSE

E-140H 3
SIS 123 0

## МЭЙНСТРЫМ: УСЁ ДЛЯ НАРОДУ

Кіношны мэйнстрым кляпаецца па прынцыпе fastfood + fastreading + fastfeeling. Фільм праходзіць праз цябе, не выклікаючы інтэлектуальнага цяжару ні ў галаве, ні ў іншым месцы. Застаецца толькі лёгкае казытаньне ў страўніку. У большасьці выпадкаў кананічныя (дабро vs. зло) і прадказальныя (дабро фарэва), гэтыя фільмы нагадваюць валіюм: праглынуў пігулку - і адчуваеш нематываваны прыступ невыноснага шчасьця.

Бязь “лішніх” ілюзіяў і фантазіяў, у даступнай форме дзіцячага пюрэ мы праглынаем спэцэфэкты, загрузны саўнд, шалёныя хуткасьці сэрыйных блёкбастэраў. Яны робяць нашае шэрае, home-job-home жыцьцё больш яркім, экшнавым і... “сапраўдным”. Опіюм для народу, млін.

## ПІВА І ТЭКІЛА: АДЧУЙ РОЗЬНІЦУ

Розьніцу? Ну, смак... А калі канцэптуальна? Ага, тут узьнікаюць праблемы. Пачнем з простага: хаця б пару марак добрага піва амаль не задумваючыся можа назваць кожны працаздольны насельнік краіны ва ўзросьце ад 16 да 50. З тэкілай складанасьці: “Мэскаль Монтэ Альбан з вусенем” ці “Ольмэка гольд” вядомыя толькі ня ў меру пантастым асобам, якія з масонскай паранояй кантралююць элітнасьць ужываньня.

Аналягічна: мала хто ведае, адкуль растуць ногі супэр-папулярных “Матрыцы” (браты Вачоўскі, 2000) і “Ванільных нябёсаў” (Камэран Кроў, 2001), а тым часам першы - частковы перадзёр, а другі балянсуе на мяжы банальнага плягіяту. Храналягічна першым быў Алехандра Амэнабар, які разам з Матэа Гілем напісаў сцэнар геніяльнага фільму - увасабленьня сытуацыі пачатку XXI ст. - “Расплюшчы свае вочы” (1999). Першапраходзец вінаваты толькі ў тым, што зьняў задужа разумны і грузны фільм. Лёгкай задуменнасьці на паўгадзіны тралейбуснага вяртаньня з кінатэатру дадому ня хопіць, каб разгрузіцца і зноўку ўвайсьці ў разьмераны рытм жыцьця... Дэпрэсіўная няўпэўненасьць, суіцыдальныя настроі - нафіг гэта ўсё, калі так здорава жыць, як герой фільму - з маскай замест выродлівага твару і штучнымі снамі замест непрадказальнай рэчаіснасьці? Глядзець Вачоўскіх - тое самае, што бухаць піва, калі вясёлыя бурбалкі адразу шыбаюць у галаву. Глядзець Амэнабара без рытуалу і асаблівага ўнутранага настрою - гэта як піць тэкілу на лаўцы перад пад'ездам. Дэбільна і ня торкае.

## АРТ-ХАЎС - ГЭТА...

Ворага трэба ведаць у твар. На жаль, больш-менш уцямнага вызначэньня тэрміну “арт-хаўс кіно” даць немагчыма, бо тыя, хто пра яго піша, збольшага самі нічога дакладнага сказаць ня могуць, а тыя, хто ўжо мусіць нешта ведаць, маўчаць як партызаны, хітра пасьміхаючыся: ну-ну, давайце, падумайце самі... Нічога не застаецца, як, пахерыўшы журналісцкі этыкет, падзяліцца сваімі ўласнымі меркаваньнямі.

Па-першае, гэта *іншае кіно*. Іншае кіно а-прыёры не павінна падабацца ўсім - толькі тым, хто настроены на эмацыйную хвалю рэжысэра. Лічыцца, што ў такім кіно акцэнт робіцца на дыялёгу паміж творцам і гледачом, прычым гэтыя зносіны адбываюцца на глыбока індывідуальным узроўні. Гм?.. На практыцы гэта азначае: калі ты маеш пакутлівы досьвед нешчасьлівага каханьня, то самотныя “Лялькі” Такешы Кітаны пераверну́ць цябе з ног на галаву, прымусіўшы плакаць ад суму і квітнець сакурай ад сузіраньня прыгажосьці. Адчуў? На іхнай птушынай мове гэта завецца *катарсыс* - ачышчэньне душы праз пакуты, шчырыя і звышасабістыя спачуваньні.

Па-другое, арт-хаўс - гэта, за рэдкім выключэньнем, нешта інтэлектуальна перагружанае, поўнае схаваных цытатаў і алюзіяў, нешта, што патрабуе веданьня культурнага кантэксту і адпаведнага ўзроўню адукаванасьці. Гэта так, дробязі. Нічога асабістага, толькі мне падаецца, што атрымаць паўнавартаснае задавальненьне ад прагляду сюррэалістычнага “Вітгенштэйна” Дэрэка Джармэна (Брытанія, 1993) даволі складана. Якім бы незакамплексаваным пэрцам ты ні быў. Культурны бэкграўнд у інтэлектуальным кіно - гэта нешта накшталт фэйс-кантролю ў мажорскіх клюбах: калі ўжо хлябалам ня выйшаў - выбачай.

Па-трэцяе. Ня хочацца, канечне, пужаць, але палова рэжысэраў прытрымліваюцца думкі, што гледача найперш трэба правесьці праз усе колы пекла, каб той пранікся сапраўднай ідэяй фільму. Натуральна, далёка не ва ўсіх атрымліваецца ў час спыніцца і ўраўнаважыць эмацыйны ціск з узнагародай за пакуты. Зь нечалавечым спакоем камэра дэманструе нам, як прыгожая і паважная акторка бла-бла-бла кайфуе, паласуючы лязом уласную вагіну ў фільме “Піяністка” Міхаэля Ханэке (Аўстрыя-Францыя, 2001). І ўсё гэта дзеля таго, каб лішні раз сьцьвердзіць тое, што было відавочна яшчэ зь першых кадраў - гераіня ніколі ня знойдзе гармонію ў гэтым сьвеце. У дадзеным канкрэтным выпадку неабгрунтаваная жорсткасьць робіць зь фільму палена, гэткага недаробленага псыха-маньяка Бураціну.

## ПАДЗЕЛ ТЭРЫТОРЫІ

Мэйнстрым выконвае сацыяльную функцыю: усемагутныя Брусы выхоўваюць натоўп. Арт-хаўс выхоўвае індывідаў, і ў гэтым, падаецца, асноўная паміж імі розьніца. Але лёс склаўся так, што больш прыбытковым зьяўляецца прадукт, разьлічаны на шырокага спажыўца зь сярэднімі запатрабаваньнямі. Як выжываць у такой сытуацыі затурканым снобам - пытаньне. У Амэрыцы, напрыклад, існуе строгае падзяленьне кінатэатраў на тыя, "дзе прадаецца папкорн", і тыя, дзе "не прадаецца". Мы, як заўсёды, выбіраем свой "асаблівы шлях": сур'ёзнае кіноператвараем у шырспажыў, а альтэрнатыўны прадукт ставім побач з *"Бляндынкай у законе"*. На нечым падобным спэцыялізуецца "Кінафармат 4х4", калі дзьве цікавыя стужкі разьмяшчаюцца побач зь якімі-небудзь чарговымі недалепкамі. Усё ў нас як звычайна - пасьля футболу ідзем у опэру, пасьля арт-хаўсу глядзім моладзевыя камэдыі. Так што давядзецца піць кактэйль "Тэкіла зь півам". Асьцярожней з гэтай штукай, сынок!



***"Вітгенштэйн"*. Дэрэк Джармэн (Брытанія, 1993)**
Эксцэнтрычны і парадаксальны філёзаф Людвіг Вітгенштэйн пакінуў пасьля сябе залатую біяграфію. Зьняты з акуратным мінімалізмам фільм разьбіты на кароткія гісторыі, кожная зь якіх празрыста і з камізмам дэманструе парадаксальнасьць філязофіі і ўласна біяграфіі Людвіга. Амаль усё, што прамаўляецца ў фільме - *дакумэнтальны* тэкст мэмуараў, лістоў і трактатаў Вітгенштэйна. Такое спалучэньне "тэорыі" з жыцьцём дадае фільму добрага сюррэалізму. Эпізод, дзе Людвіг ВЫКРЫКВАЕ поўны пакорлівасьці зварот да Бога, паказальны: стрэльнуў, выбухнуў і зноў - вочкі да неба. Сьмешна, сумна і разумна.



***"Расплюшчы свае вочы"*. Алехандра Амэнабар (Гішпанія, 1997)**
Пачынаецца фразай "Я люблю есьці, спаць і займацца каханьнем". Сканчваецца адчаем экзыстэнцыйнага крызысу: "Усё, што я магу - гэта есьці, ср*ць, спаць і бачыць сны!" Пасьля аварыі герой ня толькі страціў прывабнасьць твару, але і атрымаў *замест* жыцьця *сны пра яго*. А што можна ўбачыць у сьмяротным сьне? І хто яго рэжысэр? Пазьней браты Вачоўскі і Камэран Кроў, мусіруючы тую самую ідэю, падзялілі яе на дзьве галіны: у "Матрыцы" міт пабудаваны на ілжывасьці сну, у "Ванільных нябёсах" - на бутафорнасьці рэчаіснасьці.



***"Піяністка"*. Міхаэль Ханэке (Аўстрыя-Францыя, 2001)**
Выбітная піяністка і настаўніца музыкі - па сумяшчальніцтве яшчэ і вычварэнка. Хобі - хадзіць па порна-салёнах і шукаць рэшткі спэрмы ў сьметніках. У гэтую брыдкую істоту мае неасьцярожнасьць закахацца нармальны хлапец - гуляе ў хакей, любіць жыцьцё, ня паліць. Адначасова толькі неасьцярожнага руху хапае, каб г*но пачало сьмярдзець, і звонку вытанчаная асоба, піяністка паўстала кактэйлем з жахаў, мэталу і маніякальных комплексаў. Нэрвы ў хлопца не вытрымліваюць, ён гвалціць жанчыну, пасьля чаго тая канчаткова едзе з катушак: траўмуе таленавітую вучаніцу, усаджвае сабе нож у плячо і ідзе дахаты. Канец фільму.







## "ЮЛА", КЛЮБ

У гісторыі менскага клюбнага руху, калі такая калі-кольвек напішацца, "Ю" зойме цёплае месьцейка.
Дзіўная гэтая ўстанова - напачатку супэрмодны і супэрраскручаны, пасьля звычайны і сумны і, нарэшце, клюб, які знайшоў свой твар.
Любы менскі студэнт дакладна тут бываў ці, прынамсі, што-небудзь пра яго чуў. Зусім нядаўна аўтар пасьля агромністага перапынку зазірнуў у "Ю" - і быў прыемна зьдзіўлены тым, наколькі ўстанова адпавядае мэтавай групе. Дызайн сучасны, шмат прасторы, прыветная ахова, досыць дэмакратычныя кошты. Танцпол забіты, што для Менску апошняга часу рэдкасьць - дзяўчынкі ў кепках адбіваюцца ад хлопчыкаў. Утульна.
Нялішне будзе нагадаць, што "Ю" належыць Радыё Бі-Эй, дыджэяў якога нярэдка можна ўбачыць у клюбе ў якасьці вядучых начных шоў.
Студэнцкай базай "Ю" лічыцца прыкладна з 2000 году. Фармат яна зьмяніла адначасова зь пераходам Бі-Эй на расейскамоўную музыку 1 сакавіка 1999 году. А пачалося ўсё 14 красавіка 1998 году, калі новы клюб расчыніў свае дарагія дзьверы. Вечарынка з радасьці адкрыцьця была патаснай у самым кепскім сэнсе гэтага слова: таблёідныя фатографы, мора какаіну... Жарт.
Першымі на танцпол "Ю" выйшлі небезьвядомыя ў менскім мэдыя-сьвеце асобы - Віталь Драздоў (пасьля - праграмны дырэктар Альфа-радыё, зараз - дырэктар праекту "Саша і Сірожа") і Вольга Альварада (пасьля - дырэктар інфармацыйнай службы Альфа-радыё, зараз - шчасьлівая мама).
Жарты жартамі, але першы год свайго існаваньня "Ю" сапраўды прэтэндавала на званьне самага дзярмовагуставатага клюбу Менску. Кошты былі - афігець, народ - адпаведны. Студэнтаў не было відаць на кілямэтар - паўстыпухі ішло толькі на ўваход. Музыка - ад модных у тым сэзоне "Любочки" гурта "Маша и Медведи", "Так надо" "Мумий Тролля" і "Облаков" "Блестящих" да ўсяляк The Backstreet Boys і Spice Girls. Праўда, надараліся і дзівосы: напрыклад, выступалі ў "Ю" расейскія недалёкія псыхадэлы "Акцент" і яшчэ жывы Хой. Апрача таго, ладзіліся і тэматычныя вечарынкі (тады такое дазвалялася).
Гарачым летам 1998-га можна было назіраць, як людзі адрываюцца пад Рода Сьцюарта, The Stray Cats, The Doors, The Rolling Stones, T.Rex і нават Led Zeppelin!

**ТЭЗАЎРУС**
Славы Бандарэнкі



## U2

"Ю ДВА"
Так нядаўна дыджэй не скажу якой менскай станцыі назваў вялікую ірляндзкую чацьверку U2.
U2 гучыць як you too - "ты таксама". Маецца на ўвазе, што музыку гурта можа слухаць кожны. Яшчэ U2 - вядомы амэрыканскі самалёт-шпіён. Менавіта яго зь лётчыкам Паўэрсам (ня Остынам) зьбілі над Савецкім Саюзам 1 траўня 1960 году, з-за чаго былі вялікія разборкі ў Хрушчова з Эйзэнхаўэрам. Якраз у іх разгар, 10 траўня, у Дубліне нарадзіўся Пол Х'юсан ака Бона.
Гурт пад назвай Feedback заснаваў бубнач Лары Малэн, да якога далучыліся басыст Адам Клэйтан, гітарыст Дэйв Эванс па мянушцы Эдж і Х'юсан. Мянушку Бона прыдумаў аднаклясьнік, які ўбачыў на дублінскім ГУМе рэкляму са словамі Bono Vox. Усім спадабалася, а што абазначае гэта ў перакладзе з латыні "добры голас", Бона даведаўся праз шмат год. Лідэрства ў камандзе ён захапіў адразу.
Перайменаваўшы гурт у The Hype, будучыя U2 сталі выконваць жудасную мешаніну з самай рознай музыкі - дзікія рок-н-ролы The Sex Pistols суседнічалі зь песьнямі Боўі, The Beatles, The Moody Blues і The Bay City Rollers. Усё гэта перамяжоўвалася з жаданьнем граць свае і з рэлігійнасьцю музыкаў. 25 траўня 1978 яны ўжо як U2 выйгралі конкурс юных ірляндзкіх талентаў - з гэтага ўсё і пачалося. Дарэчы, падчас першага лёнданскага канцэрту на афішы іх абазвалі V2. Прыйшло на іх тады дзевяць чалавек. Зараз, мабыць, ганарацца, дзецям распавядаюць...



Творчасьць U2 даволі акрэсьлена падзяляецца на тры этапы. Першы - гэта тры студыйныя альбомы 1980-83 гг. ("Boy", "October", "War"), пачатак вялікага шляху. Паюнацку палкі голас Бона, што зрываецца ў шчымлівае скуголеньне простага адзінокага хлопца, які разумее, як усё х...ва ў родным Дубліне і наагул у сьвеце, ірваная гітара Эджа і дубасячая з панкаўскай шчырасьцю рытм-сэкцыя. Тэксты - пра палітыку, пра Госпада нашага і пра іншае. Гэта мела посьпех.
Пачынаючы з 1984-га квартэт прадусаваў ужо Браян Іна, і тры наступныя дыскі - "The Unforgettable Fire", "The Joshua Tree", "Achtung Baby" - пазначылі сабой выхад U2 да супэршырокай аўдыторыі. Другая палова 1980-х - пік іх папулярнасьці ў якасьці поп-зорак: стадыёны забітыя, песьні сьпяваюцца хорам, MTV замыльвае кліпы. Альбом 1987-га дагэтуль лічыцца своеасаблівым эпіцэнтрам творчасьці гурта, неперам'ўзыйдзеным па якасьці і колькасьці гітоў.
На "Achtung Baby" ўпершыню абазначыўся будучы саўнд U2, які яны распрацоўвалі ў розных варыяцыях цягам 1990-х. Выкінутыя на сьметнік некаторыя старыя клішэ, больш электронікі - гурт у цэлым стаў больш гнуткім, цынічным, стомленым (у добрым сэнсе гэтага слова), Бона - больш хітрым, мудрым і канцэптуальным. Распрацоўваюцца агромністыя стадыённыя шоў, якімі суправаджаецца кожны альбом. З шэрагу плытаў нейк выпадае "Pop" (1997) - спроба асэнсаваць рэйв-культуру, што пракацілася па ўсім сьвеце, і сканструяваць хэві-дыскатэчны гук. Гэта самы спрэчны альбом клясыкаў.
У нядаўніх інтэрвію яны прызналіся, што самі спужаліся такіх эксперымэнтаў і вырашылі вярнуцца да ранейшага, ледзь не пачатку 1980-х, гучаньня. Так узьнік "All That You Can't Leave Behind" (2000).
...Рана ці позна The Rolling Stones вымруць. У нас застанецца U2. Ірляндцы ідуць да статусу жывых багоў сямімільнымі крокамі, а Нобэлеўская прэмія сьвету аж плача па Бона, які тым часам вінавата ўсьміхаецца нам у апошніх кадрах "The Sweetest Thing".